адна зямля
Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
...жын
Мінск

# Рэгіянальная газета

17 мая 2013 года
№ 20 (942)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

5 700 000 РУБЛЁЎ
2 000 000 РУБЛЁЎ

Колькі каштуе сабраца на выпускны баль?

20-я старонка

Ці вырасце гарох, пасеяны на паперы?

3-я старонка

• Ашмяншчына: пачаў душыць жонку на вачах у дзіцяці. /4-я старонка.
• Вілейшчына: ва Уладыках аднавілі помнік паўстанцам 1863 года. /6-я старонка.
• Што чакае маладзечанскі футбол у сезоне-2013? /22-я старонка.
• Пажарныя ў Лебедзеве – за год перад 1939-м. /19-я старонка.

навіны рэгіёна

## Упершыню ў Мядзеле пройдзе "Ноч музеяў"

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры ў суботу, 18 мая, адбудзецца свята "Ноч музеяў". Мы нарадзіліся ў СССР". Мерапрыемствы ў рамках вядомай акцыі "Ноч музеяў" пройдуць у Мядзеле ўпершыню. Адкрыццё свята прызначанае на 19 гадзін на плошчы Шаранговіча. Там жа будуць выступаць прафесійныя і самадзейныя артысты. У Музеі народнай славы пройдуць выставы "Два колы" (на ёй прадставяць матацыклы і веласіпеды савецкай эпохі) і "Вяртанне ў СССР" (тут пакажуць рэчы тых часоў). Наладзяць інсталяцыю "Старая кватэра", конкурсы, паведаміла дырэктар музея **Святлана Чарняўская.** Каля ўстановы запрацуе буфет савецкага часу. Мерапрыемствы ў музеі пройдуць з 19 да 23 гадзін. А завершыцца "Ноч музеяў" танцамі пад аркестр на плошчы Шаранговіча.

## Ушануюць памяць Казіміра Сваяка

**АСТРАВЕЦ.** Мерапрыемствы, прысвечаныя 87-м угодкам святара і паэта Канстанціна Стаповіча (Казіміра Сваяка) пройдуць на Астравеччыне ў нядзелю, 19 мая. Госці збяруцца ў доме-сядзібе, якая знаходзіцца ў вёсцы Барані, а 14-й гадзіне. Прыедуць на сустрэчу і родныя Казіміра Сваяка, двое з якіх цяпер жывуць у Вільні. У літаратурна-музычнай часцы імпрэзы будзе браць удзел мясцовая творчая і краязнаўчая супольнасць. Музычным аздабленнем мерапрыемства стане выступленне фальклорнага беларуска-балтыйскага гурта "Балцкі Субстрат". "У нас ужо склалася шматгадовая традыцыя, – расказвае дырэктар астравецкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы **Наталля Ачарэтава**, – у дзень смерці Казіміра Сваяка, які мы адзначаем у маі, да нас прыязджае ксёндз з касцёла ў Камаях. Там у свой час служыў сам Сваяк. Ксёндз праводзіць святочную імшу. А ў дзень нараджэння Сваяка, 19 лютага кожнага года, наша астравецкая дэлегацыя едзе з узаемным візітам у Камаі".

## Цырульнік зможа прыехаць дадому

**ВІЛЕЙКА.** Ад 30 мая ў Вілейцы пачне працаваць "Сацыяльная цырульня". Пра гэта паведамляе райвыканкам. Майстар чацвертага разраду па паніжаных коштах будзе аказваць паслугі пенсіянерам, людзям з інваліднасцю і шматдзетным сем'ям. Да таго ж жыхары горада атрымаюць магчымасць выклікаць цырульніка дадому – у тым выпадку, калі ў сям'і ёсць чалавек, якому складана хадзіць. Наведаць цырульню можна будзе з 14.00 да 17.00. Да абеду, з 8.00 да 13.00, майстар зможа выехаць дадому. "Сацыяльная цырульня" размешчаная па адрасе: *вул. Маркава, д. 49.* Дадатковую інфармацыю пра паслугі можна атрымаць па тэлефоне **5-69-14**.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Зірнуць у мінулае – і ўбачыць свой твар



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**На творчай выставе фестывалю "Час жыць" адна з прац – твары-маскі, якія трымаюцца на аркушы. За імі схаваныя іншыя твары. Побач стаіць люстэрка. Арганізатары прапануюць пагладзець у яго, каб кожны змог ацаніць, які ж ён сапраўдны.**

Працяг тэмы на 2-й старонцы.

**МОЛАДЗЬ**

# Знайшлі лекі ад расчалавечвання

*Працяг. Пачатак чытайце на 1-й старонцы.*

**МАЛАДЗЕЧНА. Трэці год запар маладых маладзечанцаў натхняў на творчасць і напоўненае жыццё фестываль-конкурс "Час жыць", арганізаваны моладзевым клубам сустрэч і творчасці "Дыялог+" пры Маладзечанскім музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага.**

Ён праходзіў 10-12 мая. Усе праекты, якія сталі часткай фестывалю, – гэта вынік калектыўнага стварэння ідэй на сустрэчах клуба "Дыялог+", які адкрыты для кожнага.

Фестываль створаны для таго, каб падтрымліваць маладых творчых людзей, якія арыентуюцца на маральнасць. Калі творца застаецца чалавечным – гэта асноўны крытэрый, каб яго працу прынялі да творчага конкурсу "Час жыць". Для арганізатараў вельмі важная шчырасць аўтара.

– Увогуле, фестываль пачынаўся як спосаб прафілактыкі суіцыдаў і крызісных сітуацый, распавядае арганізатар фестывалю **Марына Валасковіч**. – Праўда, мы ўжо не гаворым слова "суіцыд" і не абмяркоўваем гэтую тэму напрамую. Ужо ўсё сказана. А наша мэта – даць моладзі новы жыццёвы рэсурс.

### Любы мог панюхаць пот кіцеля часоў Першай сусветнай

Фестываль пачаўся з адкрыцця выставы творчых прац "Чалавек скрозь час". На ёй былі малюнкі, фотаздымкі, паштоўкі. Размясцілі нават выставу, экспанаты якой – старадаўнія ліхтары, камяні, даўнія фотаздымкі, нават рэчы з Першай сусветнай вайны – ліст, медальён, кіцель.

– Любы мог падысці да кіцеля, панюхаць яго і зразумець, што ён мае пах поту, – гаворыць арганізатар фестывалю. – Гэты чалавек, які насіў яго, жыў. Адразу ўсведамляеш гэта і разумееш: вось ён, гэты час. Тады разумееш, што ты – звяно ў ланцугу. І гэта дае проста каласальны жыццёвы рэсурс. Дрэва не можа расці без каранёў.

На адкрыцці выставы Марына Валасковіч распавяла, што кожны чалавек адначасова існуе ў чатырох вымярэннях: цялесным, душэўным (сфера псіхалогіі), сацыяльным і духоўным (якое сягае да Бога). Кожнае з гэтых вымярэнняў было задзейнічана ў межах фестывалю.

### Таццяна Беланогая атрымала Гран-пры

На арт-медытацыі этнографа і мастака **Наталі Сухой** "Дакраніся да каранёў" кожны мог ў выглядзе выцінанкі стварыць сваё родавае дрэва і адчуць сваю сувязь з родам.

Вечарам 10 мая ў музычным падворку прайшоў прагляд сучаснага беларускага кіно.

Псіхолаг Марына Скарбеева на сваім майстар-класе "Іграем жыццё" прадэманстравала магчымасці інтэрактыўнага тэатра. Любую сітуацыю можна прайграць. Загадзя – каб быць гатовым прыняць правільнае рашэнне, постфактум – каб не паўтараць памылак і ўнутрана ўзбагаціцца.

У межах фестывалю прайшоў і творчы конкурс, падчас якога ўдзельнікі прадэманстравалі свае музычныя, тэатральныя, паэтычныя і бардаўскія таленты. Пераможцаў адзначылі дыпломамі і падарункамі.

Гран-пры ў музычнай намінацыі ўзяла бард **Таццяна Беланогая**.

Літаратурныя працы больш чым 30-і аўтараў выдалі зборнікам, які дарылі аўтарам. Сярод пераможцаў цяперашнія і былыя ўдзельнікі клуба маладых журналістаў "Маладзік": **Таццяна Касьян, Дар'я Бабенка, Вікторыя Вільтоўская, Алёна Дзямчук, Ганна Мажуць, Любоў Мяцеліца, Валеры Пінчук, Ксенія Рагель, Ірына Рудзько, Наталля Скарынка, Юлія Шаблоўская**.

– Убачыўшы зборнік, мама сказала, што ганарыцца мной, і мне цяпер нічога не страшна, – падзялілася адчуваннямі **Таццяна Касьян**. – Удзел у зборніку вельмі натхняе!



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Экспанат выставы старых рэчаў падчас фестывалю "Час жыць". Калі чалавек праносіць праз сябе адчуванне, што і да яго жылі людзі, ён усведамляе сябе звяном у ланцугу, якое мусіць штосьці важнае прыняць ад продкаў і перадаць гэта сваім дзецям. Гэта дае каласальны жыццёвы рэсурс, які робіць час жыцця напоўненым і па-сапраўднаму важкім.**

### Давалі лекі ад расчалавечвання

У выніку ўсё гэта мела на мэце стварыць поле, якое насыціць жыццёвы рэсурс удзельніка, каб яго жыццё стала больш інтэнсіўным, сапраўдным і чалавечным.

Фестываль мае розную тэму кожны год. Першы абвяшчаў, што жыццё не супермаркет, а творчасць. Другі выносіў галоўнай тэмай тое, што заўсёды ёсць час, каб штосьці змяніць. Сёлета арганізатары імкнуліся паказаць удзельнікам, што яны стаяць на лініі часу цяперашняга, мінулага і будучага. На гэтай лініі стаіць гісторыя яго, асобнага чалавека, яго роду і яго народа.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Арганізатар фестывалю Марына Валасковіч.**

– Ахапіць усё – не наша задача, – тлумачыць Марына Валасковіч. – Наша задача – сабраць стымулы. Каб чалавек адчуў, што і да яго жылі людзі, тады ён прымае, што існуюць вечныя каштоўнасці. І ён мусіць прыняць іх ад продкаў і перадаць сваім дзецям. Гэтыя гены чалавечнасці. Разумееце, цяпер на моладзь уплывае столькі расчалавечвальных фактараў. У сусветным грамадстве ідзе сціранне такіх каштоўнасцяў, як сям'я, як гендэрныя адметнасці. Мы паказваем альтэрнатыву гэтай адметнасці, якую бачым у нацыянальнай культуры і свядомасці.

### У цэнтры горада сустрэліся з продкамі: флэшмоб

Гэту ж ідэю ўдзельнікі фестывалю прадэманстравалі ўсяму гораду падчас флэшмобу "Сустрэча з продкамі". Удзельнікі апранулі ўборы даўнейшых часоў. У дзве калоны яны ішлі вечарам 11 мая ўздоўж вуліцы Прытыцкага. Яны ігралі ролю бацькоў. Калону замыкаў хлопец, які ішоў у сарочцы і басанож, трымаючы свечку – ён сімвалізаваў далёкага прашчура.

Яны дайшлі да кінатэатра і спыніліся. Да іх выйшла пара – хлопец і дзяўчына, якія пакланіліся бацькам. Бацькі адказалі ім паклонам і пакланіліся сваім бацькам, ланцужок паклонаў дайшоў да прашчура.

Падышоўшы да прашчура, бацькі запалілі свае свечкі ад яго "Агню любові" і перадавалі, пакуль свае свечкі не запалілі хлопец дзяўчына. Яны разам падышлі да вялікай свечкі і запалілі яе.

– Гэты агонь пранеслі з глыбіні стагоддзяў да маладой сям'і. І яны таксама прадоўжылі ланцуг і перадалі яго, запалілі новы агонь. Мы за сям'ю, за каханне. Яны разам, а ўсё дзеянне сімвалізуе яднанне, – патлумачыла Марына Валасковіч. – Сваім фестывалем мы хочам данесці, што кожны адказны за час свайго жыцця.

Фестываль прадоўжыць сваё жыццё, і любы зможа далучыцца да ўдзелу ў ім.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

У КАМІТЭЦЕ ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

# Ці вырасце гарох, пасеяны на паперы?



Фота забяспечана камітэтам дзяржкантролю.

Угнаенні захоўвалі ў памяшканні, у якім абваліўся дах.

**МЯДЗЕЛ. Сельскія гаспадаркі раёна прыпісваюць сабе нявыкананыя работы, а тэхніку, якая павінна працаваць на полі, яшчэ не адрамантавалі. Фермы патанаюць у гнаі.**

Гэтыя і іншыя парушэнні выявілі дзяржаўныя кантралёры падчас правядзення сяўбы ў адкрытых акцыянерных таварыствах “Слабадская зара”, “Зані” і “Габы-агра”.

Да гэтага часу тут не адрамантавалі сельскагаспадарчую тэхніку, якая запланаваная да сяўбы, мінеральныя ўгнаенні захоўваюцца ў аварыйных складах, не выконваюцца тэхналагічныя патрабаванні сяўбы.

Праверка “Слабадской зары” выявіла, што ў спраўным стане знаходзіцца толькі адзін пасяўны агрэгат, дзве сеялкі не пачыналі рамантаваць з-за адсутнасці сродкаў. Вынік – на 7 мая сяўба праведзеная толькі на 57,5% запланаванай плошчы (261 га з 454 га).

Не пачалі тут рамантаваць і кукурузную сеялку. Кукурузы ж плануюць пасеяць 350 га.

Малочнатаварныя фермы тонуць у гнаі. Вывезена толькі 34% назапашанага гною.

Службоўцы займаюцца прыпісками. У “Слабадской зары” сяўба яравых завышаная на 6,8% (19 га), падрыхтоўка глебы пад яравую сяўбу – на 42,2% (255 га).

Да сяўбы зернебабовых не прыступалі, а калі верыць паперам, засеяны 41 га (82%).

На складах у вёсцы Слабада, дзе захоўваюцца мінеральныя ўгнаенні, абваліліся дахі, праз дзіры ў сценах на вуліцу высыпаецца іх змесціва – тут ляжыць чатыры тоны суперфасфату і 16 тон калійных угнаенняў.

Сяўба праводзіцца няякасна. З парушэннямі тэхналогій ў ТАА “Зані” пасеяна 46 га, у ТАА “Габы” – 30 га. Такія ж парушэнні выяўлены і ў “Слабадской зары”.

Вынікі кантрольных мерапрыемстваў накіраваны ў Мядзельскі райвыканкам для прыняцця мер.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Маладзечанская бытоўка – устойліва стратная

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзейнасць Маладзечанскага РКБА – устойліва стратная.**

Такую выснову зрабілі кантралёры Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю, правёўшы праверку гэтага камунальнага ўнітарнага прадпрыемства. Правяраўся перыяд з 2010 па 2012 гг.

Праверка выявіла, што фінансава-гаспадарчая дзейнасць прадпрыемства гранічна неэфектыўная. Адбываецца рост сабекошту рэалізаваных прадукцыі, тавараў (работ, паслуг). Комплексныя прыёмныя пункты на вёсках – устойліва стратныя. Прадпрыемства нясе страты ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў (работ, паслуг).

Не атрыманы належны эканамічны эфект ад выкарыстання сродкаў, накіраваных на стварэнне, узнаўленне і набыццё асноўных сродкаў. Каб выканаць сацыяльныя стандарты па бытавым абслугоўванні насельніцтва ва ўсіх комплексных пунктах за бюджэтны кошт, абсталяваны працоўныя месцы швачак і цырульнікаў. Аднак з-за нізкага попыту на паслугі і недахопу кадраў абсталяванне на суму больш за 110 мільёнаў рублёў прастойвае. Гэта 16 адзінак абсталявання для рамонту швейных вырабаў, восем камплектаў абсталявання месца цырульніка, пральная машына, чатыры вязальныя машыны і іншае.

Набытыя бытавікамі для аказання новых паслуг за бюджэтны кошт мотаблок для ўзворвання зямлі, міні-збожжаздрабляльнік на суму 42 мільёны рублёў даюць мінімальны эфект. За 2012 год ад аказання паслуг па ўзворванні зямлі РКБА атрымаў 390 тысяч рублёў, размолу збожжа – 113 тысяч рублёў.

Пры такіх аб'ёмах згаданых паслуг мотаблок і збожжаздрабляльнік не акупяцца і праз 80 гадоў. Камітэт адзначае, што дакладнай стратэгіі далейшага выкарыстання абсталявання ў прадпрыемства няма.

У большасці прыёмных пунктаў прымаюцца толькі заказы, а ўся дзейнасць звялася да рэалізацыі прадукцыі ўласнай вытворчасці. Прыёмныя пункты ператварыліся ў крамы.

Кантралёры знайшлі парушэнні і ў будаўнічай дзейнасці, выкананні санітарных нормаў і гігіенічных нарматываў, працоўнага заканадаўства, вядзенні бухуліку і іншым.

Камітэт адзначыў таксама недастатковы кантроль за фінансава-гаспадарчай і вытворчай дзейнасцю з боку Упраўлення бытавога абслугоўвання насельніцтва Мінскай вобласці і Маладзечанскага райвыканкама.

Па выніках праверкі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя прадпрыемства, з якога спагнана 25 мільёнаў рублёў, 15 службовых асоб, з якіх спагнана 6 мільёнаў 500 тысяч рублёў. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя 24 чалавекі.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

| Курсы валют НБ РБ | 7.05 | 16.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 670,00 | **8 650,00** |
| Еўра | 11 360,00 | **11 150,00** |
| Злоты | 2 739,29 | **2 674,75** |
| Літ | 3 291,82 | **3 232,26** |
| Расійскі рубель | 279,00 | **275,00** |
| Грыўня | 1 070,37 | **1 062,00** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8640/8700 | **8630/8690** |
| Еўра | 11320/11400 | **11130 /11250** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 7.05 | 15.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 116150 | **114900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44750 | **45600** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 58500 | **55000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 21900 | **23500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **20800** |
| **Селядзец**, 1 кг | 20500 | **19000** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **92000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 11550 | **9900** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9900 | **9300** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 11000 | **11000** |
| **Алей** | 15450 | **15600** |
| **Маянэз**, 200 г | 4700 | **4800** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7800 | **7200** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 8900 | **8900** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 7500 | **7500** |
| **Капуста**, 1 кг | 11800 | **12500** |
| **Морква**, 1 кг | 7500 | **6500** |
| **Буракі**, 1 кг | 6500 | **5300** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21500 | **22900** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 12000 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 19800 | **24000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 21000 | **18900** |
| **Агуркі**, 1 кг | 28500 | **13000** |
| **Перац**, 1 кг | 47000 | **25000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 27000 | **26500** |
| **Бананы**, 1 кг | 12700 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 7500 | **10000** |
| **Грушы**, 1 кг | 25800 | **22900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **45000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 58000 | **58000** |
| **Бульба маладая**, 5л | 12000 | **16000** |
| **Мёд**, 1 кг | 60000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Пачаў душыць жонку на вачах у дзіцяці

**АШМЯНЫ. На судзе яна прасіла строга мужа не караць.**

Здарэнне адбылося 19 сакавіка каля 16.30 у вёсцы Баруны на Ашмяншчыне.

Мужчына за паўгадзіны да гэтага вярнуўся з працы дамоў, адкаркаваў бутэльку гарэлкі ды сам яе і выпіў. Потым вярнулася яго жонка.

Неўзабаве пачалі сварыцца з-за рэўнасці мужчыны. Ён нават ударыў жонку па твары так, што ў яе з носа пайшла кроў.

Жанчына паспрабавала выклікаць міліцыю, але ён выцягнуў з тэлефона провад. Потым схапіў ззаду жонку за шыю, паваліў на ложак і пачаў душыць, выкрыкваючы: "Зараз заб'ю, задушу".

На самой справе, забіваць яе ён не збіраўся, а толькі хацеў як мага мацней напужаць, каб яна лепш сябе з ім паводзіла і не выклікала міліцыю.

У гэты час побач знаходзіўся іх непаўналетні сын, які крычаў, каб ён адпусціў маці.

Літаральна праз паўхвіліны ў доме з'явіўся ўчастковы інспектар, які адпіхнуў яго ад жонкі і адвёў у іншы пакой.

Абвінавачаны запэўнівае, што не збіраўся забіваць жонку, проста хацеў яе як след напужаць. Бо калі б сапраўды жадаў ёй смерці, то даўно забіў бы, і сын яму не быў бы перашкодай.

Віну сваю абвінавачаны прызнаў цалкам. Ён закадзіраваўся і з таго часу не п'е і не скандаліць. Абяцае, што і надалей піць не будзе.



Фота newsline25.ru

Жанчына была ўпэўненая, што муж сапраўды хоча яе задушыць.

Па словах яго жонкі, усе сямейныя канфлікты ўзнікалі з-за таго, што муж выпіваў. Цяпер жа ён не п'е, і абстаноўка ў сям'і добрая, ніякіх сварак і канфліктаў няма. Яна просіць строга яго не караць і даць магчымасць даказаць сваё выпраўленне.

Суд прыгаварыў мужчыну да года выпраўленчых работ з утрыманнем у даход дзяржавы 15 працэнтаў заробку, але не менш за адну базавую велічыню штомесяц.

Таксама яго будуць прымусова лячыць ад хранічнага алкагалізму па месцы жыхарства.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ, старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

СЛУЖБА 101

## У чужой паветцы згарэў мужчына

**МЯДЗЕЛ. 6 мая каля 15.00 жыхарка вёскі Рамашкі пазваніла ў МНС і сказала, што гарыць паветка.**

– З-за пажару згарэла дашчатая паветка са старым сенам. Калі пажар патушылі, пад упаўшым шыферам выратавальнікі знайшлі цела мужчыны, – паведаміў інжынер дзяржпажнагляду райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Малько.**

Загінуў 49-гадовы жыхар іншай вёскі – Дзягілі. Адразу такую выснову зрабілі, знайшоўшы каля хлява ровар, што належаў гэтаму мужчыну. Потым інфармацыя пацвердзілася.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнасць пры курэнні. Электрычнасці ў паветцы не было.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Загарэўся жывёлагадоўчы будынак

**АСТРАВЕЦ. Пажар адбыўся ў пятніцу, 10 мая, каля 13.00 у вёсцы Тракенікі-2.**

Як загарэўся былы жывёлагадоўчы будынак 1975 года пабудовы, які ўжо некалькі гадоў пустуе, невядома.

Калі прыехалі выратавальнікі, драўляны шыферны дах цаглянага будынка ўжо дагараў.

Да 2011 года ён належаў сельскагаспадарчаму вытворчаму кааператыву "Варняны". Але потым яго павінны былі знесці.

Пра здарэнне паведаміў інспектар групы прапаганды і навучання Астравецкага райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Алег Шыць.**

**Настасся РОЎДА.**

ЗДАРЭННІ

## У чарзе на рынку з сумачкі выцягнулі кашалёк

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю, 12 мая, на рынку ў вёсцы Даўгінава, у 56-гадовай жанчыны скралі кашалёк.**

– У кашальку было больш чым паўтара мільёна рублёў, – кажа начальнік Вілейскага аддзела Следчага камітэта **Мікалай Раманчук.**

Спачатку жанчына пайшла ў рыбны павільён, каб набыць рыбу. Потым адправілася па іншыя пакупкі. Пакуль яна стаяла ў чарзе, нейкі невядомы выцягнуў з сумкі кашалёк разам з грашыма.

Калі падышла чарга і ёй трэба было разлічыцца за пакупку, яна і выявіла прапажу кашалька.

Адразу выклікала міліцыю і ўзбудзілі крымінальную справу, бо жанчына не пагаджаецца з тым, што магла яго згубіць.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Жанчына выпала з чацвертага паверха

**МЯДЗЕЛ. У сераду, 8 мая, каля 19.00 у міліцыю пазванілі з цэнтральнай раённай бальніцы.**

Туды са шматлікімі траўмамі прывезлі 43-гадовую жыхарку Мядзела. Яна ў нецвярозым стане выскачыла з акна на чацвертым паверсе дома.

Знаходзілася жанчына ў кватэры сваёй маці.

## Знайшоў 7 артылерыйскіх снарадаў

**ВАЛОЖЫН. Здарэнне адбылося каля 22.00 у суботу, 11 мая.**

У гэты час мужчына працаваў на двары сваёй дачы ў вёсцы Бомбалы.

Так ён знайшоў сем артылерыйскіх снарадаў (75 мм) часоў Другой сусветнай вайны.

Ужо раніцай наступнага дня яны былі абясшкоджаныя.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Дапамажыце знайсці ўкрадзеныя аўтамабілі

**МАЛАДЗЕЧНА. Усё яшчэ нераскрытыя два крадзяжы аўтамабіляў у Маладзечне.**

Адзін крадзеж адбыўся ў ноч з 18 на 19 красавіка ў Маладзечне. З дваровай стаянкі дома №139-а па Вялікім Гасцінцы нехта ўкраў аўтамабіль ВАЗ 21061, дзяржнумар 3419 ІК-5, сіняга колеру, 1998 года выпуску.

Другі крадзеж здарыўся паміж 1 і 4 мая. З тэрыторыі гаражнага кааператыва №18 па вуліцы Касманаўтаў ўкралі аўтамабіль "Сітраэн-Ксара", кузаў хэтчбэк, 1999 года выпуску, шэры, нумар 1756 ІР-5. У машыне знаходзіліся ключы і дакументы на яе.

Да цяперашняга часу машыны не знойдзеныя.

Просім усіх, хто штонебудзь ведае аб здзейсненых крадзяжах альбо аб месцы знаходжання гэтых аўтамабіляў, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах:

**(80176)751148, (80176)771656, 102.**

Канфідэнцыйнасць і ўзнагароджанне гарантаваныя.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**



КРЫМІНАЛ

## Мужчына напаў з нажом на сабутэльніка

**ВАЛОЖЫН. Выпадак адбыўся 10 мая каля 14.00 у вёсцы Пяршаі. Крымінальную справу ўзбудзілі ў панядзелак, 13 мая.**

Мужчыны сустрэліся на кватэры ў аднаго з іх і разам выпівалі. Раптам 57-гадовы мужчына напаў на свайго госця і пырнуў нажом яму ў жывот.

Госць дабраўся да фельчара, які быў у вёсцы, і той выклікаў міліцыю.

Цяпер пацярпелы шпіталізаваны. Яго жыццю нічога не пагражае.

Пра здарэнне расказаў начальнік следчага камітэта Валожынскага раёна **Віталь Юрэвіч.**

**Настасся РОЎДА.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Валанцёры пабудавалі карабель у "Надзеі"

**ВІЛЕЙКА. Увечары 15 мая ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея" ў Вілейскім раёне адкрылі новы гульнявы комплекс "Карабель з вежай". Узвёў яго міжнародны працоўны дэсант.**

– Гульнявы комплекс будавалі шэсць валанцёраў з Вялікабрытаніі (Belarus children's freedom trust) і чатыры – з Беларусі. Дапамагалі супрацоўнікі нашага цэнтра. Працы па пабудове пачаліся 4 мая. Праект часткова фінансуецца фондам "Дапаможыце нам жыць" з Германіі, – паведаміла вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю "Надзеі" **Таццяна Майсак**. – Асаблівасць комплексу ў тым, што гуляць тут могуць і дзеці з інваліднасцю. Зроблены пандусы, па якіх яны могуць падняцца наверх.

Карабель назвалі "Мара". Варыянты назвы прапаноўвалі дзеці з цэнтра "Надзея": з пачатку будаўніцтва комплексу сярод іх быў аб'яўлены конкурс на лепшую назву карабля. Варыянтаў было больш за 50. Журы спынілася на слове "Мара".

– Новы карабель невыпадкова носіць такую назву: кожнае дзіця марыць аб падарожжах, аб далёкіх краінах, аб будучай прафесіі, – тлумачыць Таццяна Майсак. – Падняўшыся на палубу гэтага карабля, яно можа адчуць сябе капітанам і ў думках перамясціцца куды заўгодна. А яшчэ важна тое, што дзеці з інваліднасцю, якія таксама могуць падняцца на борт гэтага вялікага карабля і якія мараць пра тое, як хутка яны маглі б бегаць і скакаць, калі б былі здаровыя, таксама могуць разам з аднагодкамі ўдзельнічаць у гульні і быць побач на палубе, бо гульнявы комплекс прыстасаваны і для іх.

Падобны карабель можна ўбачыць у Вілейскай школе-інтэрнаце для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы і ў іншых гарадах Беларусі.

– Натхняльнікі ідэі будаўніцтва комплексу спадары Шэйман і Сайман удзельнічалі ў будаўніцтве карабля ў інтэрнаце, – кажа Таццяна Майсак. – Кожны раз, калі прыязджаюць у Беларусь, яны прывозяць некалькі новых валанцёраў для ўдзелу ў праекце. Гэта каманда англійскіх "піратаў", як яны сябе называюць, пабудавала ўжо не адзін такі карабель у Беларусі – ва Уздзе, у Валожыне. Наш карабель значна большы, бо месца дазваляла і будаўнічых матэрыялаў было больш.




Фота забяспечана Таццянай МАЙСАК.

Гульнявы комплекс "Карабель з вежай", які пабудавалі валанцёры з Вялікабрытаніі і Беларусі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

БРАТЫ НАШЫ МЕНШЫЯ

## Даць жывёлам шанс на жыццё



Фота забяспечана Веранікай СОНІЧ.

Гэтага сабаку маладзечанка знайшла на адной з вуліц. Ён быў прывязаны дротам да плота.

**МАЛАДЗЕЧНА. Кожны дзень, спяшаючыся раніцай у школу, бачу на вуліцы бяздомнага ката або сабаку. Але, як і большасць людзей, проста праходжу міма.**

Чатыры месяцы назад да хаты маёй бабулі прыбіўся сабака. Клічку спачатку выкрашылі не даваць, каб ён не прывык і не застаўся ў нас. Сабака ахвотна ішоў да рук і кожны раз суправаджаў бабулю ў краму. Мне ён адразу ж спадабаўся, але мама не адзін раз паўтарала: "Не трэба яго чапаць, а раптам заразны! А што, калі ён цябе ўкусіць?"

Вось так і ў большасці людзей: недавер, дваякае стаўленне. Чалавек, здаецца, і гатовы прытуліць і пашкадаваць маленькую няшчасную жывёліну, але заўсёды нешта спыняе.

У красавіку ў раёне "Бярозкі" жыхарка Маладзечна **Таццяна Мароз** знайшла сабаку, прывязанага дротам да плота. Дзяўчына проста не змагла прайсці міма і толькі гадала, хто мог так абысціся з жывёлай. Доўга шукала гаспадароў, давала аб'явы, але ніхто так і не адгукнуўся. На шчасце, сабака патрапіў у добрыя рукі.

А вось **Алесі Жыляніна**й "пашанцавала" значна больш: ёй падкінулі адразу сямёра шчанят. Адной зладзіць з такой чарадой, вядома ж, нерэальна, таму прыйшлося раздаць "знаходку" знаёмым.

На жаль, не ва ўсіх ёсць такая спагада да братоў наших меншых. Нядаўна ў раёне Парашкоў знайшлі аўчарку. Па словах відавочцаў, яна была з нашыйнікам, дагледжаная, выхаваная, да яе маглі спакойна падыходзіць нават дзеці. Гаспадыню шукалі, як гаворыцца, усім светам. Знайшлі, але... Ёй не хапіла літаральна гадзіны, каб сустрэцца з любімым гадаванцам. Камунальнікі ўсыпілі сабаку.

Але сярод нас ёсць і тыя, хто заўсёды гатовы падаць руку дапамогі гэтым няшчасным істотам. Школьніца **Ксюша Рагель**, напрыклад, улетку плануе стаць валанцёрам у мінскім прытулку для бяздомных жывёл "Эгіда". У парку Горкага яны ўладкоўваюць дабрачынную выставу, дзе любы можа забраць дадому ўпадабаную жывёлу. У нашым горадзе яшчэ няма такой арганізацыі.

Учора, ідучы дадому са школы, пад лаўкай убачыла маленькае шэрае кацяня з вялікімі журботнымі вачамі. На гэты раз не ўтрымалася і забрала яго дадому.

**Вераніка СОНІЧ,**
**школа журналістыкі "Маладзік".**

**У вас ёсць пытанні наконт дамашніх жывёл?**

У працяг тэмы пра бадзяжных жывёл на вуліцах наших гарадоў карэспандэнты "РГ" звернуцца з пытаннямі да супрацоўнікаў камунальных службаў рэгіёна.

Рэдакцыя ўжо атрымала некалькі пытанняў ад гаспадароў дамашніх жывёл. Калі ў вас таксама ёсць праблема, напішыце пра яе ў "РГ". Пакінуць свае пытанне вы можаце ў каментарах на матэрыял, які размесціцца на старонцы "Рэгіянальнай газеты" ў інтэрнэце – **rh.by**. А таксама можаце патэлефанаваць на нумар **8 (0176) 76-96-67** ці напісаць на электронны адрас **regionnews@rh.by**.

**Рэдакцыя "РГ".**

ТВОРЧАСЦЬ

## Таццяна Атрошанка праспявае свае песні

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду, 29 мая, а 19 гадзіне ў Палацы культуры пачнецца творчы вечар-прэзентацыя дэбютнага дыска "Унутры вялізнага горада" паэтэсы і кампазітара Таццяны Атрошанкі. Сама творца праспявае некаторыя свае песні.

Яе творы выканаюць таксама **Ірына Дарафеева,** Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята", **Аляксандр Салаўёў,** салісты Нацыянальнага цэнтра музычных мастацтваў імя Уладзіміра Мулявіна, творчыя калектывы Палаца культуры і іншыя.

Таццяна Атрошанка – сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса, кампазітар, выканаўца, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Агмень".

**Наталля ЦАР,**
**куратар праекта.**

УШАНАВАННЕ

# Ва Уладыках аднавілі помнік паўстанцам 1863 года




Фота Дзяніса КАНЕЦКАГА.

Аднаўленая надмагільная пліта на магіле паўстанцаў 1863 года ва Уладыках.

**ВІЛЕЙКА. Працавалі сябры Таварыства аховы помнікаў у чацвер, 9 мая.**

Удзельнікі аднавілі надмагільную пліту, якая ўжо разбуралася. Яе зрабілі шырэйшай па перыметры на 10 сантыметраў і вышэйшай на пяць, каб была больш трывалая.

Наверсе на цэмент паклалі гранітны крыж чорнага колеру і выклалі кавалкамі чырвонага граніту вянок, у цэнтры якога размясцілі шыльду з надпісам "1863".

Ля магілы размясцілі стэнд з інфармацыяй пра бой пад Уладыкамі.

Працавалі над аднаўленнем сябры вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і актывіст **Алесь Раткевіч**. На аднаўленне помніка выдаткаваныя сродкі таварыства.

Стэнд ва Уладыках – першы з шасці запланаваных, які ўжо паставілі. Паводле слоў старшыні суполкі Таварыства аховы помнікаў **Дзяніса Канецкага**, да канца мая паставяць яшчэ два – у Ганцуе і Сэрвачы. На працягу года яшчэ збіраюцца паставіць стэнд у Куранцы, дзе знаходзіцца магіла паўстанцаў. Яшчэ вырашаюць, паставіць адзін ці два ў Ручыцы.

28 мая споўніцца 150 год бою пад Уладыкамі. Гэты дзень прыпадае на аўторак, таму ўрачыстасць, прысвечаная юбілейнай даце, запланавана на 1 чэрвеня. Пазней мы паведамім аб месцы і часе правядзення.

На гэтым тыдні выдавецтва "Кнігазбор" можа завяршыць працу над друкаваннем кнігі "Падзеі паўстання 1863 г. на Вілейшчыне: гістарычныя нарысы".

Праца над выданнем краязнаўчага альманаха, які таксама плануюць выдаць сёлета, яшчэ вядзецца, паведаміў сябра Таварыства **Зміцер Хаценчык**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ПАМЯЦЬ

## Жывая памяць аб Любчы і Борках – вынік супрацы ўлады і грамадства

**ВІЛЕЙКА. Сёлета 4 мая споўнілася роўна 70 гадоў ад дня трагедыі, якая адбылася падчас вайны на Вілейшчыне ў вёсках Любча, Боркі, Брыгідава, Старынкі Хаценчыцкага сельсавета.**

Вілейскі райвыканкам арганізаваў і правёў 7 мая мітынг каля помнікаў у Любчы і Борках. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлады і грамадства, госці з Мінска, было шмат школьнікаў, якія выступілі з адпаведнай праграмай, жыхары з суседніх вёсак. Па запрашэнні ўлады ў якасці ганаровага госця прысутнічала і **Фаіна Анасовіч (Кучко)**, адзіная жыхарка былой вёскі Боркі, якая выжыла ў той жахлівы дзень.

Святары правялі адпяванне па загінулых жыхарах вышэйзгаданых вёсак. Да помнікаў па загінулых ўсклалі шмат кветак. Да гэтага памятнага дня пачалі рыхтавацца два гады таму. Яшчэ ў 2011 годзе ў райвыканкам паступіла некалькі зваротаў з прапановамі ўшанаваць памяць трагічна загінулых жыхароў вёсак Любча і Боркі. На працягу двух гадоў зрабілі вельмі шмат.

На пагост у Боркі пабудавалі дарогу, якая не існавала некалькі дзесяцігоддзяў, а стары помнік па загінулым боркаўцам наноў адбудавалі. На помніку ў Любчы ўсталяваная новая гранітная пліта з прозвішчамі загінулых. Дарэчы, як сказала намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама **Святлана Дзяруга**, яго таксама плануецца адрамантаваць да 70-годдзя вызвалення краіны ад фашызму.



Фота Алеся РАТКЕВІЧА.

Мітынг у Борках.

У Лукаўцы новай вуліцы прысвоілі назву Любчанска-Боркаўская. На аўтадарозе Мінск-Мядзел, на павароце на Сакалоўку, упершыню за 70 год усталявалі ўказальнік "Любча, Боркі".

Хоць і ўзнікалі нейкія непаразуменні паміж уладай і грамадствам, але агульную мову знайшлі і ўсе пытанні і прапановы вілейскае кіраўніцтва цалкам падтрымала. Гэта вельмі радуе і натхняе на далейшае супрацоўніцтва.

Як бачым, вынік агульнай працы цудоўны. З чым і віншую ўсіх удзельнікаў гэтай акцыі. А зроблена на самой справе вельмі шмат бязвыплатна, у вольны час і ўсяго за два гады.

Аднаўленне і ўшанаванне гістарычнай памяці ў гэтых мясцінах будзе працягвацца і далей. А некранутай гісторыі тут вельмі шмат.

**Алесь РАТКЕВІЧ.**

ТВОРЧАСЦЬ

## У Мядзеле збяруцца разьбяры з Мінскай вобласці

**МЯДЗЕЛ. 18 мая ў райцэнтры пройдзе шостае рэгіянальнае свята-конкурс разьбяроў па дрэве "Разьбы зачараванне".**

У ім прымуць удзел майстры з розных куткоў Міншчыны.

Пройдуць конкурсы на хуткасць і якасць выканання твору, выстава-продаж прац удзельнікаў конкурсу. Выступяць калектывы мастацкай самадзейнасці Мядзельскага раёна.

Лепшых разьбяроў вызначаць у адзінаццаці намінацыях.

Пройдзе свята на плошчы Шаранговіча. Пачатак – у 11.00

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, палітalogія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• **ЗАТОЧКА ІНСТРУМЕНТУ**, ланцугоў бензапіл, дыскавых піл, свердлаў, нажовак па дрэве і г.д. Вул.Касманаўтаў 1-а, ларок "Выраб ключоў". ПП "Майстарключ". УНП 190923089. Т. (8-029) 3731067, (8-029) 3811905.*

• Земляныя паслугі міні-экскаватара JCB 803 PLUS (траншэі, катлаван пад газ, водаправод, падмурак), глыбіня 2,7 м. ІП Матусевіч Ю.Н. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, трамбовачныя машыны, бурэнне свідравін. ІП Кісель А.П. УНП 691507139. Т. (8-029) 9098949.*

• Музычнае суправаджэнне ўрачыстасцяў. УНП НА8231691. Т. (8-029) 7825777.*

• Прафесійныя музыкі. Вясёлы тамада. Т. (8-033) 6635375.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Рамонт, настройка піяніна, баянаў, гармонікаў, акардэонаў. Выезд да заказчыка. ІП Арловіч А.І. УНП 600181258. Т. (8-029) 6166674, у Маладзечне 749836.*

• Распілоўка лесу з выездам да заказчыка (дошка, брус, кроквенная сістэма). ІП Гардзей А.У. УНП 591700580. Т. (8-029) 6141320, (8-029) 9439027.*

• **САЙДЫНГ, БЛОК-ХАЎС**, мантаж, **УЦЯПЛЕННЕ** гарышчаў, фасадаў, пустот. экавата ІП Шульга В.І. УНП 691402024. Т. Вэлком (8-044) 5528310, МТС (8-033) 6008046.*

• Устаноўка, зборка, рамонт корпуснай мэблі ў офісах і кватэрах. Даступныя цэны. ПУП "БенаРыка". УНП 691503914. Т. (8-033) 3908204, (8-029) 3876197.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШКЛО! НАРЭЗКА: АКОННАЕ, УЗОРЫСТАЕ І ЛЮСТЭРКАЎ**. ТАА "ДрэўПрамГандаль". УНП 691288784. Т. МТС (8-029) 5578917, Вэлком (8-029) 6103437.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння (фігуркі з шарыкаў, мыльныя бурбалкі), выпускныя вечары і іншае. Вядучы на вяселле, карпаратывы, юбілеі. ІП Канановіч І.Е., УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Апалубка. Т. (8-029) 2716616, (8-029) 71090979.

• Бардзюр тратуарны, шыфер. Дастаўка. ІП Ткач Ю.Ю. УНП 690535744. Т. (8-029) 3613112.*

• Блокі г/с, пліты перакрыцця, ФБС. ЧП "ВолСтрой". УНП 591802229. Т. (8-044) 5500334, (8-029) 8669921.*

• Блокі г/с, цэгла, гаражныя вароты, усё б/у. Т. Вэлком (8-044) 5660869, МТС (8-033) 6672830.

• Блокі газасілікатныя, шыфер. ІП Волкаў А.В. УНП 591801687. Т. (8-029) 3179285.*

• Бэлька, брус, дошка, кроквенная сістэма, наяўны, безнаяўны разлік. ПВУП "Лебрус". УНП 691171555. Т. (8-029) 8629860, (8-033) 3522926.*

• Вагонка. Т. (8-029) 6954737.*

• Дошка абрэзная 7 куб.м, брус 5 куб.м, брусок 4 кв.м, даўжыня 6 м, памер розны. Т. Вэлком (8-029) 3766191.*

• Профнасціл арачны ацынкаваны, 150 лістоў, цана дагаворная. Т. (8-029) 1979073.

• Цэгла, блокі газасілікатныя. ІП Шупляк В.К. УНП 690690777. Т. 755264.

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Арматура Ш 8,10,12,14 па 3-6 м. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 7737697.*

• Бензакаса, бетонамяшалка, камень 6,5 куб.м. Т. (8-029) 2599940.

• Бензатрымер, 3,8 кВт, Германія, новы, 160 у.а. Т. (8-033) 6034106.*

• Бетонамяшалка,воданагравальнік, помпа 14 куб.м/гадз., бензакаса, труба поліпрапіленавая. Т. (8-029) 2599940.*

• Вугалок, арматура, сетка для сцяжкі, дошка для апалубкі. Дапамагу з дастаўкай. Т. (8-033) 6603068.*

• Гідраізаляцыя, 10 трубак. Т. (8-029) 3837697.*

• Глебафрэза, фрэза да мотаблока МТЗ, новая вытворчасць Смаргонь, 5400000 руб., дастаўка. Т. (8-029) 3136538.

• Каса бензінавая KWT. Т. (8-029) 6399324.

• Касілка ротарная да мотаблока МТЗ, новая, 4500000 руб., дастаўка. Т. (8-029) 3136538., фрэза. Т. (8-029) 6636538.

• **МОТАБЛОК** МТЗ, рухавік Хонда, 2013 г.в., 17700000 руб., дастаўка. Т. (8-029) 3136538.

• Прычэп да мотаблока МТЗ, новы, 7800000 руб., дастаўка. Т. (8-029) 3136538.

• Прычэп да мотаблока, памеры 1,05х1,15, 4000000 руб., дастаўка. Т. (8-029) 3136538.

• Міні-трактар, 2010 г.в., БЗ-22, (дызель), ёсць навяснае. Т. МТС (8-029) 8607952.

• Трактар МТЗ-50, пярэдні мост, стартэр, кун (коўш, вілы), усё у выдатным стане, з дакументамі + ёсць усё навяснае. Т. (8-029) 5380957 (пасля 18.00).

• Трактар самаробны трохколавы, 1,5 тон, 4,5 л.с., 6000000 руб. ці мяняю на жалезную печку, Валожын. Т. (8-029) 1716837.

### Бытавая тэхніка

• Газавая пліта Гефест 3200-05, піяніна Акорд г.Ленінград, б/у. Т. (8-029) 9228130.

• Пральная машина Арыстон-Маргарыта, б/у, выдатны стан. Т. Вэлком (8-029) 6651988, МТС (8-029) 8524666.

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» - СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Батарэю чыгунную, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Арматуру, вугалок, трубу, сетку, ліст, цехаініколь. Т. (8-029) 7737697.*

• Вядучы мост, бартавыя, гуму да трактара МТЗ-82, Мінскі р-н. Т. (8-029) 3343895.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• DDR 1, 1 GB, Samsung або Hynix. Т. (8-029) 6550799, slabada@tut.by.*

**Музінструменты**

• Футарал для цэлай скрыпкі. Т. (8-029) 6927353.*

**Жывёлу**

• Каня, авечак, буйную рагатую жывёлу і іншыя віды дамашняй жывёлы, дорага. ІП Кеўра А.С. УНП 590818581. Т. (8-044) 4846590, (8-029) 3939256.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ! МАНЕТУ, МЕДАЛЬ, СТАТУЭТКУ. Т. (8-029) 7764214.***

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*

• **АНТЫКВАРЫЯТ. ДОРАГА!** Карціны, іконы, манеты, рублі СССР, статуэткі СССР, медалі, знакі, ордэны і інш. Т. МТС (8-029) 5586238.*

• Манеты, нумізматычную калекцыю. Выезд па рэгіёне. Т. (8-029) 5531556.*

• **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Балон кіслародны, вуглекіслотны, б/у, Мінскі р-н. Т. (8-029) 2833244.*

• Бульбу буйную, дорага. Т. Велком (8-029) 6540329, Лайф (8-025) 7455516.

• Бульбу, 2 т., Мінскі р-н. Т. (8-029) 8775982.*

• Лодку. Т. (8-029) 9488674.

**ЗГУБЛЕНА**

• Тэхнічны пашпарт на аўтамабіль ВАЗ 2103, 34-57-АЕ5 на імя Лапко Вячаслава Аляксандравіча лічыць несапраўдным у сувязі са стратай.

**ІНШАЕ**

• Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток, Крым, Адэсу. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Муляр шукае працу, вопыт: кладка бесера, клінкера, абліцоўванне цэглай, платы, перагародкі, падмурак. Т. (8-029) 7695006.*

• Цясляр-сталяр шукае падпрацоўку: вагонка, блок-хаўс, гіпсакардон, ламінат і шмат іншага. Т. (8-029) 2620228, (8-029) 9382802.*

• Шукаю падпрацоўку: чыстка і афарбоўка шыферу. Т. (8-029) 9382802, (8-029) 2620228.*

**ПАТРАБУЮЦЦА**

• Арганізацыя запрашае на працу ў лесе трактарыста, вальшчыка, рабочых. ПВУП "Кракен". УНП 591801554. Т. (8-029) 8909241.

• СТА на пастаянную работу патрабуецца слесар па рамонце аўтамабіляў, зарплата здзельная. ПП "ГеаСТА". УНП 691294992. Т. (8-029) 3149460, (8-029) 7572426.*

• Швачкі і прасавальшчыца. ЧУП "АсольМода". УНП 190615877. Т. (8-029) 7547189, (8-029) 7612222, (8-029) 7070569.*

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Пажарныя ў Лебедзеве – за год перад 1939-м

**МАЛАДЗЕЧНА. У дамашнім архіве жыхара Лебедзева Ігната Астроўскага захоўваецца пажаўцелы ад часу фотаздымак, які належаў яго бацьку – Міхаілу Раманавічу Астроўскаму (ў першым радзе крайні справа).**




1 мая 1938 года. Асабовы склад пажарнай аховы Лебедзева, падрыхтоўка пажарнікаў – курс першай ступені.

Нагодай для сумеснага фатаграфавання стала здача нарматыўнага экзамену па пажарнай падрыхтоўцы. Надпіс на фота: асабовы склад пажарнай аховы Лебедзева; падрыхтоўка пажарнікаў – курс першай ступені.

1 мая 1938 года. Лебедзева знаходзіцца ў складзе Польшчы. У хуткім часе пачнецца Другая сусветная вайна, і Заходняя Беларусь будзе ўключаная ў склад БССР.

Пажарныя Лебедзева пераехалі на новае месца дыслакацыі пажарнага дэпо. Заліты фундамент, у планах – будаўніцтва новага будынка. Большасць з іх – яшчэ маладыя людзі, амаль усе родам з мястэчка.

І толькі некаторыя ў цывільным адзенні: сакратар і войт гміны, яшчэ дзве невядомыя нам асобы немясцовага паходжання. Справа ў тым, што тады, як правіла, кіруючыя пасады любога ўзроўню займалі кадры, прысланыя з Польшчы.

Пройдзе крыху больш за год, і для большасці ўдзельнікаў "фотасесіі" наступяць цяжкія выпрабаванні – як фізічныя, так і маральныя. Адных будзе гартаваць вайна, другія згараць у кастры лебедзеўскага халакоста, трэціх расстраляюць фашысты, чацвертыя стануць ахвярамі НКВД і будуць рэпрэсіраваны.

## Як у 1938 працавалі выратавальнікі

Каго мы бачым на здымку? Большасць – звычайныя сяляне-аднаасобнікі, для якіх праца на зямлі была асноўным заняткам. Пажарная справа – грамадскі абавязак.

У вольны час праводзілася пажарная падрыхтоўка, у любы момант, калі што-небудзь гарэла, – тушылі. У памяшканні пажарнага дэпо стаяла шмат бочак, запоўненых вадой.

На гужавых павозках былі напагатове ручныя помпы з вадой. За пажарным дэпо былі замацаваны коні мясцовых жыхароў. У выпадку ўзгарання коней хутка запрагалі ў павозкі і ехалі да месца пажару. Пажары не былі рэдкасцю.

## Лёсы герояў здымка

У Лебедзеве і цяпер памятаюць Перца (крайні справа ў трэцім радзе), які выконваў ролю апавяшчальніка. У час пажару ён бегаў па мястэчку з трубой і даваў сігнал аб узгаранні. 24 чэрвеня 1942 года

Перац (так яго звалі лебедзеўцы) разам з іншымі яўрэямі быў спалены фашыстамі ў гумне Субача непадалёк ад мястэчка.

У трэцім радзе крайні злева (у руках труба) – Фелікс Гладкоўскі. Ён, як і яго таварыш Перац, пры пажары сігналізаваў аб небяспецы. Фелікс меў сваю гаспадарку, іграў на аргане ў касцёле. Пасля вайны працаваў вартаўніком.

У першым радзе крайні злева – Ян Гладкоўскі – начальнік пажарнай аховы. За "пажарную дзейнасць" у 1944 годзе ён быў арыштаваны і знаходзіўся ў ГУЛАГу аж да 1956 года. Адбыўшы свой турэмны тэрмін, выехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу.

У першым радзе чацверты і пяты злева – павятовыя начальнікі, якія прыехалі з Маладзечна экзаменаваць Лебедзеўскую пажарную ахову. Дакладнымі звесткамі аб названых асобах мы не валодаем.

У першым радзе шосты злева – Жахоўскі, войт. Кіраўнік гміны быў родам з Беласточчыны. Ён валодаў арганізатарскімі здольнасцямі, добра размаўляў па-беларуску, а ў вольны час любіў паляваць. У 1939 годзе Жахоўскі быў арыштаваны новай уладай. Што было з ім далей, нам невядома.

Справа ад войта – сакратар гміны Вакула. Аб ім мы ведаем толькі тое, што ў 1943 годзе ён і два яго паплечнікі былі арыштаваныя і расстраляныя фашыстамі за падпольную дзейнасць.

## Валынь-Сібір-Японія-ЗША-Германія-Польшча-Лебедзева

Цікавы шлях быў у намесніка начальніка пажарнай аховы Лявона Рудскага (у першым радзе другі справа). Ён родам з Валыні (Украіна). У час Першай сусветнай вайны быў эвакуяваны ў Сібір.

Крыху пазней, у час грамадзянскай вайны, у выніку адступлення арміі Калчака і руху Чэхаславацкага корпуса, апынуўся на Далёкім Усходзе. У ходзе японскай інтэрвенцыі трапіў у Японію.

Адтуль дзякуючы намаганням Чырвонага Крыжа пераправіўся ў ЗША. З Амерыкі вярнуўся ў Еўропу: спачатку ў Германію, потым пераехаў бліжэй да родных мясцін – у Польшчу. У 30-я гады Лявон перабраўся на пастаяннае месца жыхарства ў Лебедзева.

Тут ажаніўся, меў дваіх дзяцей. Акрамя пажарнай справы, займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю, валодаў кілбасным цэхам, працаваў на зямлі. Пасля вызвалення Лебедзева ад фашыстаў у 1944 годзе, маючы бронь, працаваў на чыгунцы ў Маладзечне. У 1946 годзе разам з сям'ёй выехаў у Польшчу.

У трэцім радзе трэці справа – Пётр Нехвядовіч. Пасля нападзення Германіі на Польшчу ў 1939 годзе, нягледзячы на дрэнны зрок, ён пайшоў добраахвотнікам на фронт. У хуткім часе вайна для Польшчы закончылася паражэннем.

Прыйшлося вяртацца дадому. Пры пераходзе савецка-польскай мяжы Пётр быў затрыманы пагранічнікамі, потым рэпрэсіраваны. Пасля вайны працаваў ў калгасе.

Фёдар Посах – крайні ў другім радзе справа. Меў сваю гаспадарку. Будучы непрыгодным да страявой службы, у час Вялікай Айчыннай вайны служыў у дапаможных часцях.

У трэцім радзе трэці злева – Эдуард Маркоўскі. Працаваў на зямлі.

Пяты ў другім радзе злева – Яўген Якуновіч, таксама займаўся земляробчай працай. Пасля вайны быў цесляром, добрым бондарам. Зробленыя ім бочкі і цяпер служаць многім лебедзеўцам.

Пасярэдзіне на пажарнай драбіне – Васіль Посах. У час вайны загінуў у фашысцкім канцэнтрацыйным лагеры пад Лідай…

## Сталін не пачуў

Як склалася жыццё Міхаіла Астроўскага, ранейшага уладальніка фотаздымка? Трагічна! Ён быў арыштаваны 14 снежня 1939 года як член арганізацыі "Стральцы" і за антысавецкую агітацыю.

З падачы мясцовых "добразычліўцаў" важкай улікай у гэтай справе адыграў названы фотаздымак. У студзені 1940 года яго справу накіравалі ў Асобую Нараду. Што было з ім далей, родныя і цяпер не ведаюць. Аб гэтым мы можам толькі здагадвацца.

У даведцы з КДБ паведамляецца толькі тое, што 20.05.2000 года быў рэабілітаваны.

Цяжкія выпрабаванні выпалі і на долю яго сям'і. У 1940 годзе жонку, Таццяну Якаўлеўну, сына трох гадоў, дачку чатырох месяцаў і моцна хворую 70-гадовую свякроў выслалі ў Казахстан як сям'ю рэпрэсіраванага.

У дакументальнай кнізе У.І. Адамушкі і Н.У. Івановай "Помилуйте…"(1992) надрукаваная аўтабіяграфія Тацціяны Астроўскай і яе просьба да ўладаў. У просьбе да таварыша Сталіна яна расказвае аб цяжкіх умовах жыцця на новым месцы і жаданні вярнуцца на радзіму. Сталін яе "не пачуў".

У 1947 годзе дзякуючы намаганням бацькі Тацціяны Якаўлеўны удалося вярнуць сям'ю Астроўскіх у Лебедзева. 18.10.1994 года Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь жонка і дзеці Міхаіла Астроўскага былі прызнаныя пацярпеўшымі ад палітычных рэпрэсій.

Лёсы людзей, якіх мы бачым на фотаздымку, з'яўляюцца пацвярджэннем таго, што жыццё лёгкім не бывае і ў кожнага чалавека свой шлях.

**Антон АПАНАСЕВІЧ,**
**мястэчка Лебедзева.**

КАЛЯНДАР



**18 мая.** 75 гадоў з дня нараджэння (1938) Міхаіла Казінца, дырыжора, педагога, народнага артыста Беларусі (1987). Нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна. Скончыў Беларускую акадэмію музыкі. З 1966 выкладае ў ёй, з 1985 па 2005 – рэктар, з 1990 года – прафесар. Дырыжор, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча (з 1975 г.). Дзяржаўны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца ўпершыню выканаў многія творы беларускіх кампазітараў. Міхаіл Казінец – мастацкі кіраўнік сімфанічнага аркестра Акадэміі музыкі "Маладая Беларусь", старшыня Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", мастацкі кіраўнік фестывалю "Беларусь – мая песня".

***

**21 мая.** 325 гадоў з дня нараджэння Мікалая Фаўстына Радзівіла (1688–1746), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага.

***

**22 мая.** 80 гадоў з дня нараджэння Рычарда Бутвілоўскага (1933–1977), беларускага кампазітара. Скончыў Беларускую кансерваторыю. Аўтар оды і балады для салістаў, хору і аркестра, сімфоніі, канцэрта-казкі для фартэпіяна з аркестрам, п'есы для народнага і эстраднага аркестраў і інш., пісаў рамансы, музыку да спектакляў.

***

**23 мая.** 840 гадоў з дня смерці святой Ефрасінні Полацкай (князёўна Прадслава; 1110–1173), асветніцы. Нарадзілася ў Полацку. Дачка князя Георгія Усяславіча, унучка славутага полацкага князя Усяслава Брачыславіча Чарадзея. Не жадаючы выходзіць замуж, Прадслава пастрыглася ў манашкі пад імем Ефрасіння і пасялілася ў келлі Сафійскага сабора. Перапісвала кнігі і, відаць, складала летапісы, стварала арыгінальныя творы. Пабудавала дзве царквы ў Полацку, заснавала жаночы і мужчынскі манастыры. Паломнічала ў Ерусалім, дзе і памерла. Была пахаваная ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

**Падрыхтавала**
**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Колькі каштуе сабрацца на выпускны баль?




Каб сабраць дзяўчыну альбо хлопца на выпускны, спатрэбіцца, як мінімум, 2 мільёны рублёў, а як максімум, – 5 мільёнаў 700 тысяч і 4 мільёны 300 тысяч рублёў адпаведна.

**МАЛАДЗЕЧНА. Карэспандэнтка "РГ" пашпацыравала па крамах, цырульнях і салонах прыгажосці і высветліла, колькі грошай трэба мець у кішэні, каб на балі быць сапраўдным прынцэсай альбо прынцам.**

Спачатку трэба высветліць, наколькі гэтая падзея для вас значная і важная. Ад гэтага залежыць, колькі пунктаў будзе ў вашым спісе таго, аб чым трэба паклапаціцца падчас падрыхтоўкі.

### Збіраем хлопца

Хлопцам крыху прасцей: галоўнае, каб касцюмчык сядзеў. Ну і да яго пасавала сарочка ды гальштук. А за 530 тысяч рублёў можна набыць туфлі самых розных маладзевых мадэляў.

Калі ж у вас поўныя кішэні грошай і хочацца шыку, то не забудзьце пра запінкі і гадзіннік.

### Збіраем дзяўчыну

Пачнём з сукенкі. У крамах можна знайсці (з пэўнымі намаганнямі) розныя стылевыя варыянты. Кошты на іх не большыя, чым на рынку. Ёсць трэці варыянт – узяць напракат. У апошнім выпадку за сукенку вам давядзецца аддаць 150 тысяч рублёў за суткі карыстання.

Варыянты туфель таксама ёсць. Прычым і скураных, і не. Апошніх, вядома, нашмат больш, бо за натуральнасць трэба плаціць і часам у некалькі разоў больш.

Упрыгожванні ў крамах на любы густ. Кошт залежыць ад матэрыялу. Біжутэрыя вас дакладна не абанкруціць. Больш дарагі, але ўсё роўна даволі бюджэтны варыянт, – набыць нейкія пасярэбраныя ці пазалочаныя ўпрыгожванні. Ну, і не толькі на адзін вечар, а на ўсё жыццё вы можаце набыць срэбра ці золата.

Кошт прычоскі, макіяжу, манікюру ды педыкюру залежыць ад прэстыжнасці салона. Тут ужо вырашайце самі, чым рукам сябе даверыць.

| "Праграма мінімум і максімум" | | | |
|---|---|---|---|
| З чаго складаецца | | | |
| вобраз выпускніцы: | | вобраз выпускніка: | |
| | кошт | | кошт |
| **сукенка** | 350 тысяч – 1 мільён рублёў | **касцюм** | Ад 1 мільёна 100 тысяч да 2 мільёнаў рублёў |
| **туфлі** (трэба падумаць і пра больш камфортны варыянт абутку, напрыклад, балеткі) | Туфлі ад 270 да 700 тысяч рублёў Балеткі ад 180 да 600 тысяч рублёў | **сарочка** | Ад 200 да 700 тысяч рублёў |
| **калготы ці панчохі** (і лепш мець некалькі пар) | Ад 20 да 80 тысяч рублёў | **туфлі** | 400 – 600 тысяч рублёў |
| **бялізна** | Ад 150 да 500 тысяч рублёў | **рэмень** | 80 – 100 тысяч рублёў |
| **пінжак** (ці нешта іншае, што можа выратаваць, калі стане холадна) | 500 – 600 тысяч рублёў | **гальштук альбо бабачка** | 80 – 100 тысяч рублёў |
| **прычоска** | Ад 70 да 350 тысяч рублёў | **шкарпэткі** | 8 – 20 тысяч рублёў |
| **упрыгожванні** (завушніцы, бранзалеты, пярсцёнкі) | Ад 150 тысяч да 1 мільёна рублёў | **упрыгожванні (запанкі, заціск)** | Ад 180 да 800 тысяч рублёў |
| **сумачка** | Ад 180 да 480 тысяч рублёў | | |
| **макіяж** | Ад 120 да 170 тысяч рублёў | | |
| **манікюр** | Ад 60 да 70 тысяч рублёў | | |
| **педыкюр** | Ад 130 да 150 тысяч рублёў | | |
| **Сума (сярэдні кошт): амаль 4 мільёны рублёў** | | **Сума (сярэдні кошт): амаль 3 мільёны 200 тысяч рублёў** | |

### Ад сёлетняй выпускніцы

Сваімі адчуваннямі напярэдадні выпускнога дзеліцца сёлетняя выпускніца гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна **Маша Доўгер**.

– Для мяне выпускны мае велізарнае значэнне, бо такое бывае толькі аднойчы. У пэўным сэнсе, гэта пачатак новага жыцця. І калі шчыра, то перад гэтым новым ёсць нават нейкі страх.

Падрыхтоўка да выпускнога цяпер ідзе вельмі бурна. Прадумваю свой убор, бо гэта адзін з найважнейных аспектаў выпускнога. Я дзяўчына, і мне хочацца выглядаць на ўсе 100. Манікюр, прычоска, туфлі, аксесуары... Асабліва складана выбраць сукенку.

Гэты год быў вельмі напружаны. Але, з іншага боку, было і вельмі весела. Мы асабліва пасябравалі нашым класам і пачалі праводзіць разам нашмат больш часу, чым гэта было раней.



**Настасся РОЎДА**
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

■ **АДУКАЦЫЯ**

## Сустрэліся былыя настаўнікі зачыненых школ

**МЯДЗЕЛ. 8 мая адбылося пасяджэнне раённага савета ветэранаў працы сістэмы адукацыі і галіновага прафсаюза.**

Запрошаныя на яго былі ветэраны педагагічнай працы зачыненых за апошнія дзесяцігоддзі школ.

У цэнтры творчасці дзяцей і моладзі яны пазнаёміліся з выставамі – вышывак колішняй настаўніцы Камароўскай школы **Рамуальды Трацяк** і дзіцячай творчасці. Паўдзельнічалі ў працы гасцінай "Залатая восень жыцця". За кубачкам чаю падзяліліся ўспамінамі, адказалі на пытанні, разам паспявалі. А яшчэ атрымалі памятныя сувеніры ад раённай арганізацыі прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**




За сяброўскай размовай.

■ **НАВУЧАННЕ**

## "На алімпіядзе самае цяжкае – паспець зрабіць выраб"

**ВІЛЕЙКА. Па якіх толькі прадметах не праводзяць алімпіяды! Нават па працоўным навучанні. Што яны сабой уяўляюць, раскажа вучань 9 "В" класа гімназіі №1"Логас" Яўген Ручыц.**

Ён сёлета заваяваў Дыплом першай ступені на падобнай абласной алімпіядзе, атрымаў падзячны водгук на рэспубліканскай.

– Алімпіяда па працоўным навучанні ўключае ў сябе тэарэтычны, практычны туры і абарону праекта, – расказвае Яўген. – На тэарэтычным этапе трэба адказаць на шмат пытанняў з усяго курса працоўнага навучання. На практычным – неабходна зрабіць выраб. Загадзя невядома, што – толькі на самой алімпіядзе кажуць. Усе робяць аднолькавы выраб: тут уключана апрацоўка і драўніны, і металу. Адводзіцца на яго тры з паловай гадзіны. На абласной алімпіядзе рабіў мадэль вентылятара, на рэспубліканскай – царэўну-змяю.

**– Што самае цяжкае на такой алімпіядзе?**

– Паспець зрабіць выраб. І зрабіць яго якасна.

Расказаў Яўген, што працоўнае навучанне яму падабаецца таму, што цікава і з матэрыялам працаваць, і сваімі рукамі нешта зрабіць. Заахвоціў да прадмета, дапамог рыхтавацца да алімпіяд настаўнік працоўнага навучання **Багуслаў Крышкоўскі**.

– Яўген – вучань старанны, а галоўнае – мае жаданне займацца. Рыхтавацца да алімпіяды і на канікулах прыходзіў, – дзеліцца Багуслаў Крышкоўскі. – Раней ён атрымаў дастатковую базу ў нашай майстэрні. І калі ў восьмым класе прапанаваў Яўгену ўдзельнічаць у алімпіядзе, ён ахвотна пагадзіўся. І выступае паспяхова.

Ды і захапленне Яўгена нечым з працоўным навучаннем пераклікаецца.

– Мне падабаецца мадэляванне, – кажа вучань. – У раённым цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі займаюся судна- і авіямадэляваннем. Дома – мадэляваннем з паперы: ствараю самалёты і караблі.

**– Самая цікавая рэч, якую ты зрабіў?**

– Мадэль трактара. Яна заняла другое месца на выставе ў цэнтры дадатковай адукацыі. Цяпер мадэль самалёта раблю.

**– А што табе дае захапленне?**

– Новыя веды, магчымасць добра разбірацца ў чарцяжах. Ды і здольнасці развівае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

КЛОПАТ ПРА СЯБЕ

# Вітаміны: здароўе і прыгажосць

**МАЛАДЗЕЧНА. Вітаміны адыгрываюць у нашым жыцці вялікую ролю. Неабходна, каб у арганізме іх была дастатковая колькасць, без недахопу або празмернасці.**

Кожны чалавек з прыходам вясны можа адчуць на сабе зніжэнне імунітэту. Розныя знешнія і ўнутраныя фактары, такія, напрыклад, як пераменлівае надвор'е, вірусныя інфекцыі, стрэсы на працы і іншае, не самым спрыяльным чынам уплываюць на наш арганізм.

Вітаміны здольныя вярнуць арганізму сілы і бадзёрасць.

### Дзецям лепш шыпучыя і жавальныя вітаміны

– Дзецям я магу параіць нядрэнныя беларускія вітаміны. Аснову іх купляюць у Італіі, – кажа фармацэўт **Віктар Дубік**.

Дзіцячы арганізм лепш засвойвае шыпучыя вітаміны. Іх лепш прымаць з раніцы. Ёсць у нашых аптэках вітаміны, якія вырабляюць у Нідэрландах, яны таксама досыць добрыя.

Вырабляюць і жавальныя вітаміны. Дзеці іх вельмі любяць, бо ў вітамінаў цікавая форма, яны ў выглядзе звяркоў.

### Для дарослых – вітаміны ў таблетках

Віктар Дубік расказаў, што даросламу чалавеку працей выпіць таблетку з раніцы і пабегчы на працу. Ёсць варыянты вітамінаў у таблетках з мінераламі, але яны, як правіла, даражэйшыя.

Ёсць вітаміны і больш даступныя. У іх меншая колькасць вітамінаў і мінералаў, але фармацэўт яшчэ раз паўтарыўся, што па кошце яны будуць таннейшыя.

Добры комплекс змяшчае 12-15 вітамінаў, плюс столькі ж мінералаў. Можна набыць асобна вітаміны, асобна мінералы – істотнай розніцы няма.

– Няма вялікай розніцы, ці гэта будзе асобны вітамін, ці разам з мінераламі. Таму тое, што яны будуць у адной таблетцы – не значыць, што яны будуць ўзаемадзейнічаць. Кожны вітамін ў кішэчніку засвойваецца ў розны час, – працягвае Віктар.

### Вітаміны для мужчын і жанчын розныя

Вітаміны бываюць розныя: для мужчын, жанчын і дзяцей, пажылых людзей. Для кожнага з іх неабходныя пэўная доза і група вітамінаў.

Для мужчын трэба больш вітамінаў, якія выпрацоўваюць у арганізме тэстастэрон. Для жанчын – вітаміны, якія ўтрымліваюць больш магнію. Яны ўмацоўваюць валасы і пазногці.

Для пэўнага ўзросту дзяцей дозы і групы вітамінаў розныя. Напрыклад, для школьнікаў трэба большая доза вітамінаў, чым для маленькіх дзяцей.




Калі ваш рацыён збалансаваны і ў ім дастаткова свежай гародніны, фруктаў, цэльных злакаў, малочных прадуктаў, то патрэба ў вітамінах адпадае.

### Геаграфія вітамінаў

У Беларусь вітаміны пераважна прывозяць з Германіі, Італіі, Францыі.

– Але я не магу сказаць, што яны лепшыя за беларускія. Нашы вітаміны не саступаюць па якасці. Тым больш, што для іх вырабу закупляюць еўрапейскую субстанцыю, – кажа фармацэўт Віктар Дубік.

### Недахоп вітамінаў прыводзіць да вялікіх праблем

Як паведаміла студэнтка апошняга курса медыцынскага факультэта ўніверсітэта ЗША, якая вучыцца на хірурга (у ЗША, каб стаць доктарам, трэба вучыцца не менш за 10 гадоў), маладзечанка **Вольга Бераснева**, роля вітамінаў у арганізме чалавека велізарная. І аб гэтым было вядома на працягу многіх стагоддзяў, калі было заўважана, што некаторыя захворванні з'явіліся менавіта з-за нейкага дэфіцыту ў харчаванні.

– Успомніце тую ж цынгу (выпадзенне зубоў, крывацёк з носа), яе Гіпакрат упершыню апісаў у пятым стагоддзі да нашай эры, – кажа Вольга.

Вядома, калі ў вашым рацыёне дастаткова свежай гародніны, фруктаў, цэльных злакаў, малочных прадуктаў і гэтыя прадукты добрай якасці, то патрэба ў вітамінах адпадае.

Па яе словах, пераважная большасць людзей не сочыць за сваёй дыетай, ды і прадукты не лепшай якасці. Нехта ж наогул нейкай групы прадуктаў не спажывае, напрыклад, малочных. А нехта тую ж аўсянку не пераносіць. А яна ж так неабходная арганізму.

Недахоп вітаміну А, які прыводзіць да слепаты, і на сёння з'яўляецца вялікай праблемай для краін трэцяга свету. Гэта звязана з недахопам яго ў харчаванні і немагчымасцю з-за беднасці набыць вітаміны.

Недахоп вітаміну С адмоўна ўплывае на трываласць крывяносных сасудаў.

> **– Цяжарным трэба прымаць комплекс вітамінаў, куды ўваходзяць жалеза, кальцый і фалiевая кіслата. У ЗША кожнай цяжарнай жанчыне абавязкова яго прапісваюць, – кажа Вольга Бераснева.**

### Жанчынам за 50 важна піць кальцый

– Жанчынам, якім за 50 гадоў, важна піць кальцый, каб пазбегнуць астэапарозу (калі косці становяцца тонкімі і ламаюцца), і піць яго трэба не месяц і не два, а доўгімі курсамі ўсё астатняе жыццё. А каб не пацярпелі ныркі, піце паболей вады. Але пракансультуйцеся са сваім доктарам, – кажа Вольга Бераснева.

Для таго, каб ён лепш засвойваўся, прымаецца з вітамінам Д, якога ў беларусаў таксама не хапае, таму што не так шмат сонечных дзён у годзе.

– Хаця наяўнасць у арганізме кальцыю выявіць цяжка. Аналіз крыві не дае правільнага адказу, таму што пры недахопе кроў забірае яго з касцей. Каб дакладна ўжо ведаць, трэба рабіць сканіраванне косці. Увогуле, сачыце за сваім здароўем і раз-два на год здавайце кроў на аналіз, – дадае Вольга.

Вучоныя ЗША спрабуюць давядацца, ці могуць вялікія дозы вітамінаў прадухіліць ракавыя пухліны. Але даследаванні пакуль не прывялі да якіх-небудзь станоўчых вынікаў. Хаця праца на гэтым не заканчваецца.

І наогул, асабліва ў веснавы перыяд, неабходна прымаць вітаміны комплекс, таму што таго, што мы атрымліваем з ежай, зусім недастаткова нашаму арганізму.



Вольга ЮРКЕВІЧ
olga920420@gmail.com

## Роля вітамінаў у арганізме

**Вітамін А.** Вельмі важны для начнога зроку. Недахоп гэтага вітаміну з'яўляецца адной з галоўных прычын слепаты ў некаторых краінах. Вітамін А таксама неабходны для нармальнага функцыянавання імуннай сістэмы і з'яўляецца неад'емнай часткай працэсу барацьбы з інфекцыяй. Будучым мамам неабходна ведаць, што ў вялікіх дозах гэты вітамін здольны выклікаць прыроджаныя дэфекты развіцця плоду.

**Вітамін Е.** Ён з'яўляецца вельмі важным антыаксідантам. Знаходзіцца ў раслінных алеях, арэхах, малацэ, яйках, печані, мясе, а таксама зародках злакавых.

**Вітамін К.** Спрыяе згусанню крыві. Вітамін К знойдзены ў зялёнай ліставой гародніне (шпінат), капусце, а таксама зялёнай гарбаце. Людзі, якія ўжываюць недастаткова зялёнай гародніны або прымаюць антыбіётыкі на працягу доўгага часу, могуць пакутаваць ад недахопу вітаміну К.

**Вітамін D.** Галоўнай функцыяй вітаміну D з'яўляецца забеспячэнне ўсмоктвання кальцыю з прадуктаў харчавання ў тонкім кішэчніку. Недахоп гэтага вітаміну прыводзіць да рахіту ў дзяцей і размякчэння касцей у дарослых. Дэфіцыт вітаміну D – з'ява досыць распаўсюджаная, асабліва ў краінах, дзе мала сонечнага святла. Беларусь з'яўляецца адной з гэтых краін. Гэты вітамін часам называюць "сонечным вітамінам".

**Вітамін С.** Вітамін С, або аскарбінавая кіслата важны для пругкасці тканак і таксама з'яўляецца адным з антыаксідантаў. Недахоп вітаміну С выклікае цынгу, а таксама падаўжае працэс гаення ран.

**Вітаміны групы В.** Вітаміны гэтай групы ўдзельнічаюць у метабалічных працэсах і выпрацоўцы энергіі. Дэфіцыт **вітаміну В1** часта сустракаецца ў людзей, якія злоўжываюць алкаголем, з прычыны чаго адбываецца пашкоджанне мозгу. Гэтыя вітаміны нельга накопліваць у арганізме, іх трэба папаўняць штодзённа.

Недахоп **вітаміну В3** (таксама вядомы як нікацінавая кіслата) прыводзіць да пелагры, захворвання, якое характарызуецца трыма Д – дыярэя, дэрматыт, дэменцыя (прыдуркаватасць). Пелагра часта сустракаецца ў краінах, дзе кукуруза з'яўляецца асноўным харчовым прадуктам.

**Вітамін В9** (фоліевая кіслата) неабходны для росту і развіцця крывяноснай і імуннай сістэм. Недахоп фоліевай кіслаты можа выклікаць малакроўе у дарослых, а пры цяжарнасці павышае рызыку развіцця дэфектаў нервовай трубкі плоду.

Дэфіцыт **вітаміну В12** прыводзіць да малакроўя і неўралагічных расстройстваў. Вегетарыянцам рэкамендуецца асабліва ўважліва ставіцца да спажывання гэтага вітаміну, бо ў раслінах яго няма.

**Вольга БЕРАСНЕВА.**

"КРУГЛЫ СТОЛ"

# Што чакае маладзечанскі футбол у сезоне-2013?

## Праблемы маладзечанскага футбола абмяркоўвалі ў рэдакцыі "РГ"

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачаткам футбольнага сезона ў футбольных аматараў не памяншаецца колькасць пытанняў пра яго далейшы лёс.**

Для таго, каб абмеркаваць найбольш важныя з іх, за адным сталом у рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" сабраліся загадчык аддзела фізкультуры, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф**, дырэктар гарадскога стадыёна **Аляксей Язневіч**, дырэктар ФСК "Маладзечна-2013" **Аляксандр Любанец**, заснавальнік клуба **Дзмітры Ганчароў**, футбаліст **Юры Бугай** і футбольны заўзятар **Павел Карэцкі**.

Размова транслявалася ў прамым эфіры на сайце "Рэгіянальнай газеты". Любы ахвотны мог наўпрост задаць пытанне ўдзельнікам "круглага стала". Усяго за час трансляцыі ў рэдакцыю паступіла каля дваццаці пытанняў.

Прыводзім некаторыя моманты з размовы.

**– На якіх умовах футбольная каманда можа карыстацца стадыёнам?**

**Аляксей Язневіч**: – У адпаведнасці з указам №150 мы не можам даваць стадыён у бясплатнае карыстанне (маецца на ўвазе Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб некаторых пытаннях арэнды і бязвыплатнага карыстання маёмасцю" – аўт.). У аплату ўваходзіць карыстанне полем на дзве гадзіны, праца васьмярых чалавек, якія абслугоўваюць стадыён, камунальныя паслугі. Пры мінімальным разліку адна гульня абыдзецца крыху больш, чым тры мільёны рублёў. Гэта пры ўмове, што паслугі "хуткай дапамогі" клуб будзе аплачваць асобна.

**– Якую дапамогу можа аказаць клубу райвыканкам?**

**Мікалай Шрымф**: – Для таго, каб атрымаць фінансавую дапамогу, клуб павінен аформіць некалькі дакументаў. У тым ліку план развіцця клуба, яго каштарыс на сезон. Дапамога ад райвыканкама не можа перавышаць 40% ад усіх сродкаў клуба. Іншыя сродкі клуб павінны зарабляць сам.

Вядома, ёсць пэўны недавер да клуба з боку кіраўнікоў прадпрыемстваў, бо клуб – новая структура, ён утварыўся пару месяцаў таму.

Аддзел спорту можа дапамагчы ў тым, каб клубу па мінімальных коштах разлічвалі аплату за стадыён ці пражыванне ў гасцініцы. Бясплатна мы не можам гэтага рабіць – гэта будзе проста фінансавае злачынства.

**– Як будзе вырашацца пытанне з транспартам падчас выездаў?**

**Мікалай Шрымф**: – У аддзела спорту райвыканкама ёсць аўтобус на балансе, але ёсць тэхнічная перашкода: ужо два месяцы не можам знайсці кіроўцу. Аўтобус на 40 месцаў. Апошнім разам ездзілі на ім у Брэст: дарога туды і назад абышлася ў сем мільёнаў рублёў. Калі клуб хоча карыстацца гэтым аўтобусам, то сам павінны плаціць грошы. Мы не можам даць яго бясплатна. Адзінае, у чым мы можам пайсці насустрач, – браць грошы не па камерцыйных, а па бюджэтных разліках. Гэта прыкладна на 30% танней.

Вядома, клуб можа знайсці і іншы аўтобус за іншую плату. Магчыма, нехта дасць аўтобус у якасці спонсарскай дапамогі.

**– Як будзе выглядаць састаў каманды ў далейшым?**

**Дзмітры Ганчароў**: – Як толькі мы арганізавалі клуб "Маладзечна-2013", мы сабралі футбалістаў, якія раней выступалі за горад. Яны адмовіліся выступаць за новы клуб і, наколькі я ведаю, будуць гуляць за вобласць у камандзе Стоўбцаў. Гэта іх рашэнне, да якога мы ставімся з павагай.

Вядома, нам бы хацелася, каб за клуб выступалі маладыя маладзечанскія футбалісты. Мы прапанавалі выхаванцам мясцовай юнацкай спартыўнай школы гуляць за клуб, але па нейкіх невераготных прычынах ніводны з іх не пагадзіўся.

Мы склалі дамову, паводле якой хацелі б, каб лепшыя выхаванцы школы выступалі за клуб. Цяпер будзем разглядаць яго з дырэктарам школы **Віктарам Дзмітрачковым**. Вельмі хочацца, каб трэнер **Дзяніс Мятліцкі** і Віктар Дзмітрачкоў селі за стол перамоваў і закапалі "сякеру вайны".

**Мікалай Шрымф**: – Я таксама лічу, што за горад павінны выступаць маладзечанскія футбалісты. Тады іначай выглядаюць і трыбуны: падтрымаць гульцоў прыходзяць родныя, сябры, суседзі. Размова з дырэктарам школы абавязкова адбудзецца. Паўтаруся, што пакуль існуе недавер да новага клуба – я сам гэта бачу. Трэба спакойна і з цярплівасцю да гэтага ставіцца.

**Юры Бугай**: – Каманда прадстаўляе горад Маладзечна і яго футбольныя традыцыі ў турніры.

**Пакуль маладзечанцаў у нас толькі трое. У будучым павінна быць больш. Каманда гуляе на маладзечанскім стадыёне, на яе матчы ходзяць маладзечанскія гледачы. Таму я не лічу, што з-за саставу каманда адарвалася ад горада.**

Колькі барысаўчан у БАТЭ? Ніводнага. Але ўсе іх падтрымліваюць, бо гэта нашы беларусы.

**Павел Карэцкі**: – Ёсць каманда з назвай "Маладзечна", ёсць традыцыйныя колеры – гэта мы і падтрымліваем. Няхай і маладзечанцаў цяпер на поле выходзіць мала. У еўрапейскім футболе клубы не прымацоўваюцца да горада і нават краіны.

**– Як будзе выкарыстоўвацца стадыён у Чысці?**

**Мікалай Шрымф**: – У нас ужо быў падобны досвед, таму магу сказаць: да Чысці не так складана дабрацца. Некалі маладзечанскія заўзятары запаўнялі ўвесь стадыён у Чысці. Арганізоўвалі і спецыяльныя аўтобусы, і на электрычцы ездзілі. Праблема таго, што будзе складана патрапіць на матч, падаецца мне надуманай.

Увогуле, стадыён са штучным пакрыццём мае дапаможны характар. Хто сказаў, што адразу каманда пераедзе туды? Стадыён можа выкарыстоўвацца для трэніровак, напрыклад, у лютым ці сакавіку.

**Аляксандр Любанец**: Мы, праўда, не збіраемся пераязджаць у Чысць. Матчы ў нас запланаваны на гарадскім маладзечанскім стадыёне. А стадыён у Чысці будзе выкарыстоўвацца больш для трэніровак.

**Павел Карэцкі**: – Мы будзем старацца выязджаць у максімальнай колькасці, дзе б не праходзілі гульні.

**– Ці можна будзе выкарыстоўваць піратэхніку падчас матчаў?**

**Аляксей Дзмітрачкоў**: – Забарона піратэхнікі ідзе ад Федэрацыі футбола. Тэарэтычна ёсць магчымасць атрымаць дазвол. Для гэтага трэба сабраць некалькі подпісаў: міліцыі, МНС, дырэктара стадыёна і інспектара матча. У пасляматчавай справаздачы інспектар павінен указаць, ці выкарыстоўвалася піратэхніка. Калі яе выкарыстоўвалі без дазволу – штраф атрымае клуб.

**– Якія арганізацыі і прадпрыемствы ўжо дакладна стануць спонсарамі клуба?**

**Аляксандр Любанец**: – Канкрэтны спонсар на сёння – гэта "Маналітбуд". Палову заявачнага ўнёску кампанія ўжо пералічыла на наш разліковы рахунак. З арабскай авіялініяй супрацоўнічаць сёлета не будзем. Спадзяёмся, да наступнага сезона з імі з'явіцца нейкая канкрэтыка. Пошук спонсараў працягваецца.

**– Ці будзе клуб зарабляць грошы гандлем падчас матчаў?**

**Аляксандр Любанец**: – Мы думаем наконт продажу марожанага на гульнях. Але як гэта рэалізаваць на практыцы – пакуль вялікае пытанне. Калі ставіць асобны гандлёвы пункт, людзям будзе нязручна хадзіць: трэба будзе ісці падчас матча, а за перапынак шмат не нагандлюеш. Быў варыянт, каб прадавец хадзіў паміж радамі ці сектарамі. Патрэбны будзе яшчэ і касавы апарат, каб абавязкова выдаваць чэк. Таму над пытаннем гандлю будзем яшчэ думаць. Наконт клубнай атрыбутыкі мы пакуль што нічога не вырашалі.

**Павел Карэцкі**: Над атрыбутыкай мы працуем самі. Напрыклад, дызайн шалікаў распрацоўваем самі, пасля замаўляем іх праз Украіну ці Польшчу.

**– Якія заробкі ў футбалістаў "Маладзечна"?**

**Юры Бугай**: – Пра заробкі мы пакуль не гаворым, усё трымаецца на энтузіязме. Вядома, грошы ніколі лішнімі не бываюць. Тым больш, што некаторыя гульцы маюць свае сем'і, у некаторых ёсць дзеці. Можна зразумець тых футбалістаў, якія пасля мінулага сезона, калі даводзілася ездзіць на матчы за свае сродкі, сёлета вырашылі выступаць за вобласць.

**Каляндар гульняў клуба "Маладзечна" на сезон 2013 года глядзіце ў наступным нумары.**

Аляксандра ПАРАХНЯ.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

"Круглы стол" аб'яднаў тых, каму неабыякавы лёс мясцовага футбола.

НАВІНЫ

## Футбольны турнір

**МЯДЗЕЛ. 9 мая на гарадскім стадыёне прайшоў футбольны турнір, прысвечаны Дню Перамогі.**

У ім прынялі ўдзел пяць камандаў: чатыры з Мядзельскага раёна і адна з вёскі Міхалішкі Астравецкага.

Першае месца заняла каманда фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Мядзел", якая ў фінале з лікам 3:0 абыграла футбалістаў з Міхалішак. Трэцяе месца на рахунку прадстаўнікоў "Беларусбанка", паведаміў галоўны спецыяліст аддзела па фізкультуры, спорце і турызме **Леанід Шыдлоўскі**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Смаргонь - Смалявічы – 0:1

**СМАРГОНЬ. Чарговы матч чэмпіянату Першай лігі скончыўся паражэннем для "Смаргоні".**

Гульня прайшла на дамашнім стадыёне "Юнацтва" 11 мая.

Аднаго забітага гола сапернікам са Смалявічаў хапіла, каб атрымаць перамогу. Мяч патрапіў у вароты "Смаргоні" на 12-й хвіліне. Да фінальнага свісткі гаспадары поля так і не здолелі зраўняць лік.

Для смаргонскай каманды матч быў чацвертым у сезоне. На рахунку "Смаргоні" два паражэнні, адна перамога і адна нічыя. Цяпер каманда мае на сваім рахунку чатыры ачкі і займае 11-е месца ў турнірнай табліцы.

Аддзел інфармацыі.

## За перамогу змагаюцца дамы-інтэрнаты

**ВІЛЕЙКА. Фінал штогадовага турніру па міні-футболе сярод жыхароў інтэрнатаў пройдзе ў пятніцу, 17 мая, на базе дзіцячага рэабілітацыйнага аздараўленчага цэнтра "Надзея".**

Спаборніцтвы пройдуць у межах "Адзінага тыдня масавага футбола". Сёлетні турнір, ужо сёмы па ліку, пройдзе пад назвай "Seni Cup 2013".

За перамогу змагаюцца 16 камандаў-інтэрнатаў. Пераможца атрымае магчымасць прадставіць Беларусь на міжнародных спаборніцтвах у Польшчы. Супрацьстаяць беларусам будуць спартсмены з Расіі, Украіны, Германіі, Венгрыі, Славакіі, Літвы, Чэхіі, Латвіі і Польшчы.

Аддзел інфармацыі.

# Камент-эксперт




**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

**Футбольны клуб "Маладзечна" будзе плаціць стадыёну два мільёны рублёў за гульню**

Спадзяюся, што людзі прыйшлі сапраўды ПРАЦАВАЦЬ, ну і, канешне, падкупляе іх патрыятычнасць. У Гармазы такога не было – адзін толькі выраз пра форму і назву клуба чаго быў варты. Поспехаў вам і паўнютkіх трыбун!!! *Aliaksandr.*

Спартыўныя аб'екты павінны давацца ў рукі тым людзям, якія там гуляюць. Калі гаварыць аб лядовай арэне, то яна павінна належаць хакейнаму клубу, стадыён – футбольнаму. Але не так, як у нас: уласнік – горад! Гораду гэта ўсё абыякава. Пытанне трэба вырашаць. ***paulichak_fcm.***

**Маладзечна – Гомель – 0:2. Першы футбольны матч сезона анлайн**

Дзякуй, вялікі дзякуй! На жаль, гульня у нашых зусім пакуль ніякая, стрэл Мокрага у першым тайме, але ж толькі Мола – толькі перамога!!! ***Сяргей.***

Я думаў будзе горш. Дзяніс Мятліцкі малайка. 0:2 з Гомелем – гэта выдатна. ***ЗЕНЯ.***

Каманда добра трымалася, нягледзячы на тое, што сапернік відавочна быў мацнейшы. Пра гэта сведчыць хаця б тое, што ў тым годзе Гомель скончыў чэмпіянат у верхніх радках табліцы. А наша каманда праводзіла свой першы афіцыйны матч. Для першага разу – вельмі добра. Не зманю ні слова, калі скажу, што мы верым у гэты клуб і ў тое, што ў сёлетнім сезоне мы скончым ў верхніх радках. У хлопцаў усё атрымаецца! Нам ёсць за каго хварэць, а клубу ёсць для каго гуляць! Наперад! ***S12.***

**Браты Адамовічы з-пад Альковічаў – авіятары, якія пакарылі Атлантыку**

Вось яна самая сапраўдная гісторыя наша, наша нацыянальная каштоўнасць, нашы героі-землякі, якія вядомыя ўсяму свету, але толькі не нам. Таму што бальшавіцкая сістэма на працягу цэлага сямідзесяцігоддзя знішчала ўсё наша гістарычнае, як толькі магла. Архівы палілі разам з касцёламі і цэрквамі. Людзей, якія валодалі ведамі, знішчалі альбо гнаілі ў лагерах. А замест знішчанай праўды ўсім нам навязвалі сваю, маскоўскую, "правільную" гісторыю, напісаную пад дыктоўку крамлёўскіх дыктатараў. На вялікі жаль, яшчэ і ў наш час не вельмі вітаюць, а хтосьці і наогул баіцца адраджэння гістарычнай справядлівасці. А колькі яшчэ ўсяго ў забыцці, і гэта невядомае неабходна любімі шляхамі раздабываць і абнародаваць, каб не згінула назаўсёды. Як бачым, гісторыя Вілейшчыны выходзіць з забыцця, але дзякуючы толькі энтузіязму такіх вось людзей, як аўтар гэтага артыкула. З дзяржаўнай падтрымкай справа ў гэтым накірунку, канешне, пайшла б нашмат лепш, але што зробіш – крызіс, тут ужо не да гістарычных каштоўнасцей. Так што трэба змагацца самім, наколькі гэта магчыма. ***Алесь Раткевіч.***

■ **ЖАНЧЫНАМ**

# Тваё "няма чаго надзець" ужо няма куды класці

**Збіраюцца муж з жонкай на вечарыну. Жонка адчыняе шафу і незадаволена кажа: "Ну, вось, зноў няма чаго надзець!" На што муж ёй адказвае: "Ды тваё "няма чаго надзець" ужо няма куды класці".**


Фота За ХРЭЦКАЙ.

**Поўная шафа адзення, а насіць няма чаго.**

Жарты жартамі, але кожная з нас сутыкалася з такой сітуацыяй, калі шафа забіта адзеннем, а надзець няма чаго.

Давайце разам разбяромся, чаму так адбываецца, і разгрузім нашу шафу ад непатрэбных рэчаў.

Першае, што трэба зрабіць, – гэта выявіць, якія колеры і фасоны падыходзяць менавіта вам. Існуе шмат разнастайных тэстаў, якія дапамогуць вызначыць ваш колер, а таксама падабраць тое, што падыходзіць менавіта для вашай фігуры.

Вы павінны ўзяць адзін тыдзень са свайго жыцця і вызначыць, дзе вы звычайна бываеце: праца, спартзала, дыскатэкі.

Ну вось, скажам, калі вы бываеце на працы 50% свайго часу ў тыдзень, то і адзення ў вашай шафе на 50% павінна складацца з дзеласых касцюмаў. Бо калі жанчына працуе, а яе шафа забітая дыскатэчнымі ўборамі, карысць ад такога гардэроба будзе вельмі маленькая.

А цяпер самае жорсткае: вы павінны пераглядзець увесь свой гардэроб, знайсці там рэчы, якія вы не насілі больш за год, і ПАЗБАВІЦЦА ад іх!

Каб ваша сэрца не так балела, можна гэтыя рэчы паспрабаваць прадаць праз камісійную краму або аддаць камунебудзь. У крайнім выпадку складзіце іх у чамадан і засуньце кудынебудзь, каб вочы вашы не бачылі.

**Ніколі не вяртайце ў шафу рэчы, ад якіх вы вырашылі пазбавіцца, бо шафа напоўніцца, а надзець зноў не будзе чаго.**

Вы павінны звярнуць увагу на тое, што большасць рэчаў у вашым гардэробе павінна спалучацца паміж сабой, перагледзьце іх і знайдзіце тыя камплекты, да якіх не хапае, напрыклад, абутку.

Ва ўсіх нас заўсёды ёсць якая-небудзь цудоўная кофтачка, да якой нічога не падыходзіць. Складзіце спіс таго, што неабходна менавіта для вашага гардэроба.

І калі апынецеся ў краме, перастаньце кідацца на 150-ю пару ружовых туфель "з вашых мар", а спакойна дастаньце спіс і купляйце толькі тое, што вам сапраўды неабходна.

Так дзесьці за год у вас складзецца правільны і сапраўды добры гардэроб.

Але фразу "мне няма чаго надзець" усё ж не варта забываць. Рэгулярна выкарыстоўвайце яе перад сваім мужам, так вы прыцягнеце інвестыцыі ў свой гардэроб.

**Таццяна УЛАДЫКА,**
**школа маладога журналіста.**
(*Паводле кнігі А. Кладзіенкі "Дызайн іміджу"*)

■ **ГАРАСКОП (17-23 МАЯ)**


**Авен.** Вы будзеце цяпер самым шчаслівым знакам задыяка. Усе пытанні будзеце вырашаць проста "на ляту".


**Цялец.** Не адкладвайце надалей завяршэнне важных спраў і нарэшце прыміце канчатковае рашэнне. Вам спатрэбіцца такая якасць, як камунікабельнасць, менавіта яна дапаможа дамагчыся поспеху.


**Блізняты.** З'явіцца магчымасць кіраваць сітуацыяй і нават уплываць на будучыя падзеі. Не карыстайцеся толькі цвёрдымі і безапеляцыйнымі інтанацыямі.


**Рак.** Перыяд будзе поўны цікавых і нават загадкавых сустрэч і запомніцца надоўга.


**Леў.** Імкненне пашырыць гарызонты не ілюзорнае, цяпер вы зможаце асвоіць нешта новае і карыснае для сябе, павысіць узровень прафесійных ведаў.


**Дзева.** Не ўступайце на працы ў канфлікты з калегамі, бо ў чымсьці яны, можа быць, і маюць рацыю. Падумайце, ці так неабходныя цвёрдыя і нязменныя прынцыпы – можа, часам варта адступіць ад правіл і зрабіць выключэнне.


**Шалі.** Не сумнявайцеся ва ўласных сілах, асабліва калі недаверлівасць ужо не адзін раз падводзіла вас. Паверце: вы зможаце ўвасобіць у жыццё ўсе свае задумы.


**Скарпіён.** Не давярайце без праверкі фактам і лічбам: калі інтуіцыя пярэчыць прынцыпу, здавалася б, відавочнага рашэння, то тут нешта не так, і да яе варта прыслухацца.


**Стралец.** Вы любіце быць "на краі зямлі". На рабоце марыце пра дачу, на дачы – пра рыбалку, на рыбалцы – пра работу. І такі кругаварот усё жыццё. Вам не пазайздросціш.


**Казярог.** Не прыбядняйцеся – энергія віруе, прычым на ўсіх кірунках. Час увасабляць на практыцы запаветную мару, у вас усё атрымаецца.


**Вадалей.** Прыступайце да рэалізацыі даўно задуманых праектаў, падпісвайце новыя кантракты, не забывайце і пра старыя справы. Час, як ніколі раней, спрые ўвасабленню ў жыццё вашых задум.


**Рыбы.** Для вас цяпер час эмацыйнага піку, калі разважлівасць бывае лішкам і жыццё б'е ключом. Вы смела можаце сказаць: "Вось гэта пашанцавала!"

**Падрыхтавала Марыя УРБАНОВІЧ.**

■ **СУДОКУ**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 1 | 8 | | 5 | |
| | | | | | | | 1 | |
| 3 | | 8 | | 6 | 9 | | | 4 |
| | | | | | | 8 | 2 | |
| | | 3 | 2 | | 1 | 7 | | |
| | 9 | 5 | | | | | | |
| 4 | | | 9 | 8 | | 1 | | 6 |
| | 3 | | | | | | | |
| | 8 | | 4 | 2 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.

■ **РЭПЕРТУАРЫ**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйныя прыгоды **"Рыф"**, 3D
18 мая – у 13.00
19 мая – у 13.30
22 мая – у 16.00
23 мая – у 16.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Біяграфічная драма **"Легенда №17"** (Расія, 2013, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
17 мая – у 18.00
18 мая – у 15.00
Кошт білета – 20 000 рублёў (дзённы), 30 000 рублёў (вячэрні).

Прыгодніцкі экшн **"Жалезны чалавек 3"**, 3D
17 мая – у 15.00
18 мая – у 18.00
19 мая – у 15.30, 21.00
20 мая – у 21.00
21 мая – у 18.00
22 мая – у 18.00
23 мая – у 21.00
Кошт білета – 35 000 (дзённы сеанс), 40 000 рублёў (вячэрні).

Экшн, трылер **"Падзенне Алімпа"**
17 мая – у 21.00
18 мая – у 21.00
19 мая – у 18.30
20 мая – у 18.30
21 мая – у 21.00
22 мая – у 21.00
23мая – у 18.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыйныя прыгоды **"Пабег з планеты Зямля"**
17 мая – у 17.00
18, 19 мая – у 14.30, 16.30
Кошт білета – 15 000 рублёў

Баявік, трылер **"Вяртанне героя"**
17 мая – у 19.00, 21.30
18 мая – у 19.00, 21.30
19 мая – у 19.00, 21.30
20 мая – у 21.30
21 мая – у 19.00, 21.30
22 мая – у 19.00, 21.30
23 мая – у 19.00, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

Прэм'ера. **"Казка пра чырвоную стужачку"** (вясёлая прыгода для дзяцей і дарослых) *Галіна Латышава Алег Чэчанеў*
18 мая – у 11.30 і
21 мая – у 10.30 і 12.30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях) *Уладзімір Рудаў*
23 мая – у 19.00

Тэатра мае права на замену спектакляў
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл.: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: **modt@tyt.by.**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

С.Кавалёў. **"Певень, кот, цмок і іншыя"** (фантастычнае апавяданне)
19 мая – у 12.00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

Камент-эксперт rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 +24 | | +17 +28 | | +19 +24 | | +17 +26 | |
| | 736 | ↖ 3 | 734 | ← 4 | 739 | ↑ 3 | 735 | ↑ 4 |
| Вільня | +15 +25 | | +16 +26 | | +18 +24 | | +15 +26 | |
| | 747 | ↖ 4 | 746 | ← 3 | 744 | ↑ 4 | 745 | ↑ 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 5.02
Захад 21,16
Даўжыня дня 16.14

Усход 12.53
Захад 1.58
Квадра 2

**18 мая, субота**

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +19 +30 | 743 | ← 4 |
| Магілёў | +18 +30 | 743 | ← 6 |
| Гродна | +16 +26 | 746 | ↖ 4 |
| Мінск | +17 +28 | 734 | ← 4 |
| Брэст | +15 +27 | 747 | ↖ 4 |
| Гомель | +20 +27 | 749 | ↑ 4 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Арына-расадніца (18 мая)– дзень пасадкі капусты.
- Позняе цвіценне рабіны – да доўгай восені.
- Мокры май – будзе жыта як гай.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці можна адстрэльваць бадзяжных жывёл?

**Віталь Ковіч, рабочы прадпрыемства "Белхол":**

– Мне вельмі шкада іх. Калі б у мяне было больш месца і грошай, я забраў бы іх усіх да сябе. Па магчымасці стараюся падкормліваць. Кожная істота мае права на жыццё, таму я супраць адстрэлу!

**Карына Грыдзіна, у дэкрэтным адпачынку:**

– Нават не ведаю. З аднаго боку шкада, але ж сярод іх сустракаюцца хворыя або шалёныя жывёлы. Мне яны нічым не перашкаджаюць, але могуць нашкодзіць іншым. У крайнім выпадку можна і адстрэльваць.

**Сяргей Бізукойць, вучань СШ№ 1:**

– У мяне дома цяпер жывуць чатыры кошкі, і ўсіх іх я некалі падабраў на вуліцы. Я люблю жывёл, таму лічу, што адстрэльваць іх – бесчалавечна. Дзяржава павінна вырашаць гэтую праблему па-іншаму. Напрыклад, ствараць гадавальнікі.

**Тамара Шупляк, пенсіянерка:**

– Канешне, трэба адстрэльваць! Яны заразу розную разносяць. Бывае, па вуліцы страшна прайсці: сабакі лётаюць цэлымі зграямі, могуць і на чалавека накінуцца. Можа, яны якія шалёныя, хто ж іх ведае?

**Кацярына Кураловіч, повар:**

– Жывёлы ні ў чым не вінаватыя! Трэба караць тых, хто выкідвае іх на вуліцу, як непатрэбныя рэчы. Калі ўжо вырашыў завесці хатнюю жывёлу, то разумей, што гэта не цацка і што ты нясеш за яе вялікую адказнасць.

**Наталля Колбун, бухгалтар:**

– Бяздомныя жывёлы выклікаюць у мяне жаль. Асабліва дрэнна тое, што з часам іх становіцца ўсё больш. Звычайна ў правінцыйных гарадах няма гадавальнікаў, таму жывёл прыходзіцца адстрэльваць. Аднак я лічу, што адстрэл – не выхад з гэтай сітуацыі.

**Вікторыя Раманоўская, навучэнка:**

– Гэта сур'ёзная праблема. Адстрэл – вельмі жорстка ў адносінах да жывёл. А калі гэта яшчэ адбываецца на вачах у людзей, тады зусім жах!

**Марта СЕМЯНОВІЧ, школа журналістыкі "Маладзік".**

## ВОЛЬНЫ ЧАС

# Як скаўты-"ваўчаняты" становяцца "зубрамі"

**МАЛАДЗЕЧНА. Дваццацігадовы юбілей скаўцкай дружыны адзначылі ў пятніцу, 10 мая.**

У гімназіі №10 сабраліся як цяперашнія скаўты, так і тыя, хто быў сябрам гэтай арганізацыі раней.

– Скаўтынгам я займалася каля 15 гадоў, – успамінае **Лілія Старасценкава**. – Добра памятаю, як ездзілі прыбіраць смецце ў маленькай вёсачцы. Я раю ўступіць у гэтую арганізацыю тым, каму цікавы актыўны і карысны адпачынак.

Старыя фатаграфіі і музычныя падарункі зрабілі сустрэчу душэўнай. На сустрэчы скаўтмайстрам уручылі ордэны "Бронзавы зубр".

Усе яны некалі пачыналі свай скаўцкі шлях, калі ім было не больш за 12 гадоў – у такім узросце хлопчыкаў-скаўтаў называюць "ваўчанятамі", а дзяўчат – "вавёрачкамі".

**Дар'я ЦАУНЯ, школа журналістыкі "Маладзік".**

## АДЗІН ДЗЕНЬ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ

Фота Дзмітрыя ШАХРАЯ.

**Жартачкі па-вілейску. Фантан з пенай! Нехта, мабыць, уліў мыльны сродак у ваду.**



Рэгіянальная газета
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6250 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 20 (942) 17.05.2013.
Друкарня ТДА "Знамение". Г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 410. Падпісана ў друк у 10.00 16.05.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.